ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 10 (2412) 9 сакавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

*У ГЭТАЙ ПАРТЫІ НІЯКІХ ПРЫВІЛЕЙ*

## ЖАНЧЫНЫ ЗМАГАЮЦЦА ЗА СЯБЕ

**Ёсць у людскім грамадстве шэраг вечных праблем -- нейкія практычна невырашальныя задачы на працягу ўсяго існавання чалавецтва. Мне здаецца, да іх адносіцца і спрэчка пра тое, дзе ж у гэтым самым грамадстве месца жанчыны, якая яе роля і якая вартасная ацэнка. Чаго толькі ні прыдумана для характарыстыкі жанчыны: тут і "валасы -- доўгія, розум -- кароткі", і "паслухай жанчыну і зрабі наадварот", і нават "баба з возу -- кабыле лягчэй..." Але ж нікуды тая баба з возу не падзенецца, бо без яе, бабы, не будзе і разумніка-мужчыны. І вось у гэтым выпадку, узаемаадносін жанчыны і мужчыны, мы і маем, можа, найбольш яскравы прыклад, які пацвярджае, што і марксізм далёка не апошняя тэорыя ў свеце, прынамсі, яго закон адзінства і барацьбы процілегласцей. Ну а калі ўжо размова заходзіць пра стасункі жанчыны і палітыкі, тут дыяпазон меркаванняў такі, пра які можна смела казаць -- зашкальвае. Як у адзін бок, так і ў другі. Часцей, праўда, у другі -- у той, дзе жанчыне катэгарычна адмаўляецца ў праве быць кімсьці яшчэ акрамя кухаркі, прыбіральшчыцы і нянькі. Тым не менш жанчыны з гэтым не пагаджаюцца, а таму расце колькасць разнастайных жаночых асацыяцый, рухаў і нават партый.**

**З лідэрам адной з такіх партый -- жаночай партыі "Надзея", сакратаром выканкома Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Валянцінай ПАЛЕВІКОВАЙ наша гутарка.**



(Інтэрв'ю з В. ПАЛЕВІКОВАЙ змешчана на 3-й стар.).

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ І ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Новы 1995 год знамянальны па-свойму. Гэта год новых парламенцкіх выбараў, гэта дзесяты ўжо год з пачатку так званае перабудовы. А выніку папярэднім несуцяшальныя. Глыбокая безнадзейнасць ахоплівае шматпакутную Беларусь. Эканамічныя рэформы ў тупіку, духоўная культура ў абвальным крызісе, карупцыя і ваяўніча-нахабная злачыннасць канчаткова запанавалі ў грамадстве. Нават з такімі высілкамі здабыты суверэнітэт рэспублікі пракамуністычныя ўлады адкрыта намерваюцца здаць пад абцас жырыноўска-ельцынскай Расіі, якая яшчэ раз паказала сваё ісціннае імперскае аблічча ў Чэчні. Намерваюцца, не баючыся магчымага абвінавачвання ў дзяржаўнай здрадзе. Кіраванне новай прэзідэнцкай адміністрацыі нічога, акрамя далейшага пагаршэння жыцця, не прынесла народу, аказаўшыся чарговым камуністычным падманам. Барацьба паміж палітычнымі групоўкамі Кебіча і Лукашэнкі на справе праявілася ўнутранаю грызнёю за цёплыя кіруючыя крэслы і пасады. Пры ўладзе засталіся ўсё тыя ж асобы, скампраметаваныя сувязямі з партнаменклатурным альбо камсамольска-цэкоўскім мінулым, асобы абсалютна амаральныя і ніякага даверу ў народзе не маючыя. Яны ж пазахоплівалі ў працэсе "прыхватызацыі" і народную ўласнасць, нахабна адцёршы ад яе працоўных і сканцэнтраваўшы ў сваіх руках велізарныя накрадзеныя ў народа капіталы пры імкліва нарастаючым жабрацтве астатняга люду. І менавіта ж яны зараз, не тоячыся, паварочваюць у бок аднаўлення таталітарнай дыктатуры.

У такіх катастрафічных абставінах наўрад ужо ці выратуюць нас нейкія нават вельмі радыкальныя эканамічныя рэформы або паасобныя кадравыя перетасоўкі. Патрэбна карэннае абнаўленне законным шляхам і эканомікі, і духоўнага жыцця, і ўсіх ўладна-адміністрацыйных структур. Адзін толькі прынцып матэрыяльнай зацікаўленасці не ўрухоміць разладжаную ўканец вытворчасць. Неабходна агульнае духоўнае аздараўленне жыцця народа, які стагоддзямі жыў ва ўмовах рабскага прыгнёту і духоўнай абяздоленасці, асабліва жорсткіх у гады камуністычнага панавання. Нам трэба вярнуць даўно ўжо страчаную веру ў Бога, як бы мы яе для сябе ні разумелі, веру ў дабро, у дзяржаву, у сям'ю, у свой шматпакутны, знявечаны расійска-бальшавіцкай дыктатурай народ.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

## ЛІЧБА ТРЫНАЦЦАЦЬ -- НЕШЧАСЛІВАЯ

**Цяжкі лёс выпаў на лепшыя гады жыцця гэтай жанчыны. А была праца, сям'я, дачка... Потым -- баракі, нары, ранні пад'ём і непасільная работа на лесапавале за міску баланды.**

**Але Ірына ПАЛЬЧЫНСКАЯ з горада Клецка ўсё сцярпела, перажыла цяжкасці лагернага жыцця і несправядлівасць, каб расказаць цяперашняму пакаленню, што такое "культ асобы Сталіна". Так да нядаўняга часу пісалі ў падручніках па гісторыі.**

*-- Ірына Пятроўна, хацелася б, каб вы расказалі крыху пра сябе.*

-- Нарадзілася я ў вёсцы Лукаўцы Клецкай гміны Нясвіжскага павета. Бацька працаваў па найму ў Клецку ў Адама Бацвінкі, м[illegible]ыплом, займаўся раздзелк[illegible]ясных туш.

У 1936 годзе я паступіла ў Клецкую пачатковую (польскую) школу. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі зноў вучылася ў школе, але мяне адсадзілі на адзін клас назад. З прыходам немцаў зноў вуч[illegible]лася.

*-- А далей?*

-- У кастрычніку 1942 года паступіла ў медыцынскую школу, што была адкрыта ў Баранавічах. Яна размяшчалася пры гарадской бальніцы, і ў ёй на двух курсах вучылася каля 200 чалавек.

*-- А хто кіраваў школай? Немцы?*

-- Не. Ёю кіраваў айцец Леў Гарошка. Ён да гэтага часу з'яўляецца для мяне ўзорам чалавека ва ўсіх адносінах. Іменна ён у медыцынскай школе вясной 1943 года выратаваў мяне і іншых навучэнак, нягледзячы на пагрозу смерці, ад вывазу на работы ў Германію...

*-- Я ведаю, што навучэнцы ўсіх устаноў у час нямецкай акупацыі як бы аўтаматычна былі і членамі Саюза беларускай моладзі...*

-- Так, такая арганізацыя ў медыцынскай школе існавала, але я глыбока не ўнікала ў яе дзейнасць, хаця таксама лічылася членам СБМ. Значна пазней з друку я даведалася, што статут СБМ вызначаў мэту арганізацыі, якая заключалася ў выхаванні "паслядоўных будаўнікоў новай Беларусі і падрыхтоўцы іх да выканання будучых народных задач". Асабліва настойліва падкрэслівалася неабходнасць патрыятычнага выхавання моладзі, пазбаўлення яе ад гістарычна абумоўленай рабскай псіхалогіі, выхавання нацыянальна-грамадскай свядомасці, павагі да працы, дысцыпліны і г.д. Усё гэта было скіравана на тое, каб моладзь "адчула сваю адказнасць за лёс і дабрабыт сваёй Радзімы і заўсёды змагла б працаваць і служыць для свайго народа і краіны".

*-- І чым вы займаліся пасля таго, як ад вывазу ў Нямеччыну вас выратаваў айцец Леў Гарошка?*

-- Вярнулася дамоў і жыла на сваім хутары. А ў 1944 годзе паступіла ў баранавіцкую фельчарска-акушэрскую школу. Праз два гады мяне накіравалі працаваць фельчарам у клецкую паліклініку. Марыла паступіць у медінстытут, але ў 1947 годзе не прайшла па конкурсу. Потым выйшла замуж, нарадзілася дачка Каця. Мы будавалі свой дом на Слонімскім завулку ў Клецку...

*-- І калі вас арыштавалі?*

-- Я часта ездзіла ў Баранавічы па медыкаменты. І калі 10 чэрвеня 1951 года (гэту дату ніколі не забуду) мне далі камандзіровачнае пасведчанне, то ў мяне не было ніякіх хваляванняў. Дачцэ тады быў адзін год і два месяцы...

У аблздраўаддзеле сакратарка, павітаўшыся са мной, пайшла ў суседні кабінет. Вярнулася адтуль з маладым чалавекам. Ён спытаў: "Вы Пальчынская?" Адказала: "Так". Ён міла прапанаваў: "Пройдзем са мной!"

Мы дайшлі да кінатэатра "Кастрычнік". Тут аднекуль з'явіўся і другі малады чалавек, які, здавалася, нават падштурхоўваў мяне пад локаць. "А хто вы такія?" -- не сцярпела я. "Зараз усё высветлім", -- пачула ў адказ. І тут я зразумела, што гэта не медыкі. Але нават калі падвялі да дзвярэй "Крывога кола" (Упраўленне МДБ па Баранавіцкай вобласці. -- **У.С.**), я не магла падумаць, што мяне арыштавалі.

*-- І вас адразу пасадзілі ў камеру?*

-- Не. Спачатку прывялі ў нейкі кабінет. Я там сядзела, а мае новыя знаёмыя ўсё бегалі. Пад вечар кажуць, што, маўляў, тут давядзецца пераначаваць. "А ў чым справа?" -- нервавалася я. "Патрэбна санкцыя пракурора", -- адказаў адзін. "За што?" -- не супакойвалася. "Разбяромся, за што", -- быў адказ. І ўсё.

Мяне закрылі пад замок, я легла на канапу, але сон не ішоў. Увесь час думалася, што здарылася.

*-- З чаго ж пачаўся наступны дзень?*

-- З пытання, ці ведаю я Івана Фурсевіча. Калі вучылася ў фельчарска-акушэрскай школе, быў у нас такі хлопец. Ён са Стаўбцоўскага раёна, раней пісаў пісьмы...

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*VOX POPULI*

## МІНЧАНЕ — ЗА

**По выніках экспрэс-апытання жыхароў сталіцы Беларусі, праведзенага Беларускім інстытутам інфармацыі і прагнозу, жыхары горада Мінска праявілі рэдкую ў апошні час аднадушнасць у ацэнцы вынікаў нядаўняга візіту Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі ў Беларусь і дакументаў, падпісаных Б.Ельцыным і А.Лукашэнкам.**

**На пытанне: "Ці варта далей развіваць дружалюбныя адносіны паміж Расіяй і Беларуссю?" станоўча адказалі 86,3 працэнта апытаных, адмоўна -- 5,4 працэнта, цяжка было адказаць -- 8,3 працэнта.**

**На пытанне: "Ці падтрымліваеце вы аднаўленне адзінай эканамічнай прасторы паміж Расіяй і Беларуссю!" выказаліся "за" -- 79,3 працэнта апытаных, "супраць" -- 9,5 працэнта, цяжка было адказаць -- 11,2 працэнта.**

*АФІЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ*



**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір сустрэўся 24 лютага з прадстаўнікамі Нацыянальнага камітэта па святкаванню юбілею ААН.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.**

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

## З ДЭПУТАТАЎ — У ДЫПЛАМАТЫ

**Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма з добра інфармаваных крыніц, пасольскі корпус Рэспублікі Беларусь папоўніўся чатырма новымі дыпламатамі.**

**Цяпер нашу краіну за мяжой будуць прадст[illegible]ць дэпутаты Вярхоўнага Савета: у Кітаі -- Вячаслаў [illegible]узняцоў, у Балгарыі -- Аляксандр Герасіменка, у Чэхіі -- Мікалай Вайцянкоў, у Малдове -- Мікалай Грынёў.**

*ПЕРАД ВІЗІТАМ ПРЭЗІДЭНТА*

## МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ Ў БРУСЕЛІ

**Адкрыццё выставы выяўленчага мастацтва беларускіх мастакоў адбылося ў бельгійскай сталіцы Брусселі. З экспазіцыяй пазнаёміцца не толькі жыхары сталіцы, але і іншых гарадоў гэтай дзяржавы. А сродкі, атрыманыя ад продажу работ беларускіх жывапісцаў, будуць накіраваны ў фонд падтрымкі дзяцей, якія пацярпелі ад вынікаў чарнобыльскай аварыі. Акцыя прымеркавана да візіту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў гэтую краіну.**

*СТАТЫСТЫКА*

## УКЛАДЫ Ў БАНКАХ

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі Беларусі, уклады насельніцтва ва ўстановах Ашчаднага і камерцыйных банкаў краіны склалі на 1 лютага 1995 года 323,8 мільярда рублёў, што ў 9,5 раза вышэй за ўзровень 1 лютага 1994 года.**

**Цэны на спажывецкія тавары і паслугі ў студзені 1995 года ў параўнанні са студзенем 1994 года ўзраслі ў 20,4 раза. Такім чынам, у параўнальных умовах уклады насельніцтва на 1 лютага 1995 года склалі 46,5 працэнта да ўзроўню 1 лютага 1994 года.**

*МАЛА РАДАСЦІ*

## ЦЭНЫ... ЗНІЖАЮЦЦА

**Цяпер, калі цэны на прадукты харчавання ўвесь час растуць, зусім непрадапдобнай здаецца інфармацыя, якую карэспандэнту Белінфарма паведамілі ў кампетэнтных колах: на 10 працэнтаў зніжаюцца цэны на яйкі, птушку і мяса.**

**Аднак такі прыемны факт, на жаль, зусім не гаворыць пра тое, што ў эканоміцы рэспублікі нарэшце з'явіліся абнадзейваючыя тэндэнцыі. Хутчэй, наадварот. Спецыялісты лічаць, што зніжэнне кошту прадуктаў адбываецца з-за перапоўненасці складоў гэтымі таварамі, якія хутка псуюцца. Рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця прымушае людзей адмаўляцца ад ужывання многіх важных прадуктаў харчавання.**

*ЗЛАЧЫННАСЦЬ*

## АРМІЯ БЯССІЛЬНАЯ

**Па-ранейшаму ў беларускай арміі адзначаецца тэндэнцыя росту злачыннасці. Асабліва непакоіць тое, што павялічваецца колькасць цяжкіх злачынстваў, якіх за год стала на 16 працэнтаў больш. А крадзяжоў зброі за гэты час учынена ў 2 разы больш.**

**Прычынай таго ваенныя лічаць прызыў у армію раней судзімых асоб, а таксама глыбокую маральную хваробу ўсяго грамадства, у якім выхоўваюцца прызыўнікі. Відаць, армія ў такой сітуацыі проста бяссільная змагацца са злачыннасцю.**

*ХАТНЯЯ АДУКАЦЫЯ*

## НЕ ПУСЦІЛІ Ў ШКОЛУ

**Беспрэцэдэнтны выпадак адбыўся ў Чэрыкаве: муж і жонка Тыманюк прынялі рашэнне не адпраўляць у школу сваіх дзяцей -- першакласнікаў Ніку і Ігара.**

**Бацькі лічаць, што дома яны самастойна змогуць даць сваім нашчадкам адукацыю не горшую. Камісія па справах непаўналетніх, якая разбірала гэты інцыдэнт, выслухаўшы ўсе доказы, якія прыводзілі бацькі на карысць дамашняй адукацыі, вымушана была вынесці станоўчы вердыкт.**

*КОНКУРС ПРАЕКТАЎ*

## ПОМНІК АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

**Падведзены вынікі конкурсу на лепшы праект помніка паэту Адаму Міцкевічу, які будзе ўстаноўлены перад будынкам Саюза палякаў Беларусі ў Гродне.**

**На конкурс былі прадстаўлены чатыры работы. Журы, у састаў якога ўвайшлі прадстаўнікі Саюза палякаў, мясцовых улад, прафесіянальныя скульптары, аддало перавагу праекту помніка мінскага скульптара А.Заспіцкага.**

**Мяркуецца, што бюст Адама Міцкевіча будзе бясплатна выраблены ў Варшаве на заводзе "Воля".**

*СТРЭСАВАЯ ЭПІДЭМІЯ*

## БЕРАЖЫЦЕ НЕРВЫ

**На думку некаторых кіраўнікоў Гомельскай клінічнай лабараторыі Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны, каля 70 працэнтаў жыхароў вобласці пакутуюць на так званыя пагранічныя нервова-псіхічныя расстройствы.**

**А гэта садзейнічае развіццю ішэмічных, [illegible]ых, гіпертанічных і іншых захворванняў. І калі ў першыя гады пасля чарнобыльскай катастрофы стрэсавы стан у асноўным тлумачыўся радыяцыяй, цяпер гэты фактар значна адсунуўся, а на першае месца выйшаў сацыяльна-эканамічны. Людзі трацяць перспектыву і нервуюцца.**

*ВЯСНА-95*

## ЖАЎРУК ПРЫЛЯЦЕЎ

**20 лютага гродзенскія арнітолагі зафіксавалі на ўскраінах абласнога цэнтра ранні прылёт жаўрукоў. Гэта ўсяго другі выпадак за апошнія 70 гадоў. Самы ранні прылёт жаўрукоў, як сведчаць архіўныя запісы, быў адзначаны на Гродзеншчыне 14 лютага 1925 года.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ВЫРАБЛЕНЫ валавы ўнутраны прадукт Беларусі ў параўнанні са студзенем 1994 года скараціўся на 9 працэнтаў. За першы месяц новага года ён склаў 4 971 мільярд рублёў.

ТОЛЬКІ трохі больш за 40 калгасаў і саўгасаў Беларусі з агульнай колькасці 2,5 тысячы сталі акцыянернымі таварыствамі, народнымі прадпрыемствамі, пераўтвораны ў іншыя рынкавыя структуры.

МІНІСТЭРСТВА культуры і друку зарэгістравала інфармацыйны бюлетэнь "Каталіцкія навіны". Выдаваць яго будзе Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Бюлетэнь мае выходзіць раз на месяц і асвятляць жыццё беларускага касцёла.

ФОНД развіцця шахмат вырашыў заснаваць Саюз прадпрымальнікаў Беларусі. Дапамагаць ветэранам шахмат, таленавітай моладзі, школам -- такія мэты ставіць фонд.

ПАРТЫЯ здароўя і прыгажосці за захаванне беларускай нацыі з'явілася на палітычным небасхіле дзяржавы. Яе арганізавалі дактары-касметолагі, вучоныя-фізікі, выкладчыкі, журналісты. Партыя будзе займацца арганізацыяй страхавой медыцыны, клапаціцца аб якасным лячэнні людзей.

У АЭРАПОРЦЕ Мінск-2 спынена спроба кантрабанднага вывазу у Бельгію 3 405 карат алмазных паўфабрыкатаў. Па ацэнках спецыялістаў, вартасць затрыманага грузу складае каля 1 мільёна 600 тысяч амерыканскіх долараў.

*ДНІ КУЛЬТУРЫ УКРАІНЫ НА БЕЛАРУСІ*

# "МЫ АДЧУВАЛІ СЯБЕ ЯК ДОМА"



З 23-га па 26-га лютага праходзілі Дні культуры Украіны на Беларусі. Галоўныя падзеі адбываліся ў Мінску. Пасланцам брацкага народа тут прадаставілі лепшыя пляцоўкі, сцэны, залы.

За чатыры дні майстры мастацтва з Украіны далі мінчанам столькі канцэртаў, колькі не давалі раней за некалькі гадоў, калі існаваў СССР. Выступленні артыстаў успрымаліся цёпла, канцэрты праходзілі з аншлагам, шмат хто нават не змог папасці на іх.

"Мы адчувалі сябе як дома, быццам выступалі ў Кіеве ці Днепрапятроўску, Палтаве ці Жытоміры", -- казалі майстры мастацтва Украіны. А сярод іх былі вядомыя ўсяму свету імёны: спявачка Вольга Басыцюк, скрыпач Багадар Катаровіч, віяланчаліст Іван Кучар...

Дні культуры -- гэта не толькі канцэрты. У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь праходзіла мастацкая выстаўка "Пяць стагоддзяў украінскага жывапісу", у Міністэрстве культуры і друку дзейнічала выстаўка кніг "Зямлі квітнеючай краса". Адбыліся сустрэчы гасцей з дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі Беларусі, паездкі па месцах баявой славы, у Хатынь, знаёмства з гістарычнымі помнікамі Беларусі, а таксама сустрэчы гасцей са сваімі землякамі, якіх у нашай рэспубліцы пражывае некалькі сотняў тысяч.

Важнай падзеяй у культурным жыцці абедзвюх краін стала падпісанне пратакола аб культурным супрацоўніцтве паміж Украінай і Беларуссю, разлічанага на два гады. Згодна з ім прадугледжваецца расшырыць культурныя сувязі ў галіне абмену мастацкімі прафесійнымі і самадзейнымі калектывамі, арганізацыя выставак вядомых мастакоў (так, ужо на красавік запланавана выстаўка твораў беларускага мастака Г. Вашчанкі на Украіне), абмен архіўнымі і музейнымі экспанатамі, спрыянне вяртанню іх на радзіму і многае іншае.

-- Хаця пратакол з'яўляецца толькі асновай і не ў поўнай меры раскрывае ўвесь аспект і аб'ём культурных мерапрыемстваў паміж Украінай і Беларуссю, -- падкрэсліў міністр культуры і друку Беларусі Анатоль Бутэвіч, падпісваючы гэты дакумент, -- мы добра разумеем, што не ўсё пакуль наладжана на высокім узроўні. Нам хацелася б больш цеснага супрацоўніцтва і ў справе перакладу кніг, і ў развіцці кінамастацтва, і шмат яшчэ чаго, што дакументальна не ўвайшло ў пратакол.

Выконваючы абавязкі міністра культуры Украіны Мікалай Якавіна сказаў, што і да падпісання пратакола, нягледзячы на існуючыя дзяржаўныя граніцы, культурныя сувязі паміж нашымі народамі ніколі не перапыняліся. "Напрыклад, -- казаў М. Якавенка, -- чаго варты толькі прыезд у Беларусь спевака з сусветным імем Анатоля Салаўяненкі, які тройчы наведаў вашу краіну пасля раздзелу СССР".

Завяршыліся Дні культуры Украіны на Беларусі заключным канцэртам на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета ў Мінску.

У перспектыве кантакты паміж дзвюма дзяржавамі яшчэ больш пашырацца: праз месяц у Мінску збяруцца прадстаўнікі нацыянальных акадэмій на дыскусію аб адзінай навуковай прасторы.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: пратакол падпісваюць міністр культуры і друку Беларусі Анатоль БУТЭВІЧ і выконваючы абавязкі міністра культуры Украіны Мікалай ЯКАВІНА.**

*НАБЫТКІ*

## "РАДЗІВІЛАЎСКІ ЛЕТАПІС"

**У Нацыянальную бібліятэку Беларусі перададзены два экземпляры факсімільна аднойленага "Радзівілаўскага летапісу". Арыгінал рукапісу XV стагоддзя з больш чым 600 каляровымі мініяцюрамі захоўваецца ў бібліятэцы Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу, а атрымаць двухтомную каляровую факсімільную копію адмовіліся ўсе абласныя бібліятэкі і музеі Беларусі, акрамя Нацыянальнай бібліятэкі.**

**Выданне мэтанакіравана набываецца Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь у санкт-пецярбургскага выдавецтва "Глагол" па даволі высокай цане -- 250 долараў за кожны экземпляр.**

# "УСЁ ДЛЯ ЛЭДЗІ"

Адкрыццё выставы пад інтрыгуючай назвай "Усё для лэдзі" было назначана на 12 гадзін дня. Да гэтага часу хол мінскага Палаца мастацтва цалкам запоўнілі лэдзі, якія прагнулі ўбачыць, што ім могуць прапанаваць 170 фірмаў з 18 краін свету. Былі перакрыты ўсе рэкорды па колькасці натуральных футраў на адзін метр карыснай плошчы. Раскошныя стэнды вабілі да сябе праз тоўстае шкло, але ж нягледзячы на тое, што адкрыццё па незразумелых прычынах адкладвалася, моцныя хлопцы ўнутр дапускалі толькі выбраных, аддзяляючы "чыстых" ад "нячыстых" па адных ім вядомых прыкметах. Чагосьці чакалі. Можа спрыяльнага размяшчэння зорак на небасхіле, можа прыбыцця прэзідэнта Расіі, які ў гэты ж дзень прыехаў у Мінск? Аднак у рэшце рэшт пасля прамоў і выступлення фальклорнага ансамбля перад раздражнёнай публікай, якая стамілася ад чакання, Сезам адчыніўся.

Ужо праз пяць хвілін сталі відавочнымі як станоўчыя, так і адмоўныя бакі арганізацыі выставы. Залы Палаца мастацтва разлічаны на мастацкія выставы з невялікай колькасцю наведвальнікаў. На гэты раз паглядзець на прадукцыю замежных фірм сабраліся тысячы чалавек. Да некаторых стэндаў было проста немагчыма наблізіцца, наведвальнікі штурхаліся і наступалі адзін аднаму на ногі. Што тычыцца станоўчых бакоў выставы, то да іх трэба аднесці вялікую колькасць вельмі неблагіх тавараў, якія тут жа можна было набыць па даволі невысокіх (у параўнанні з магазінамі) цэнах. Выставу без перабольшання можна назваць удалай: сведчанне таму хаця б велізарная чарга людзей, якія імкнуліся туды трапіць у апошні дзень яе працы. Многія пакідалі павільён з пакупкамі, а астатнія хоць даведаліся, чым можа папесціць сябе лэдзі, канешне, калі ў яе ёсць грошы.




НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

*У ГЭТАЙ ПАРТЫІ НІЯКІХ ПРЫВІЛЕЙ*

# ЖАНЧЫНЫ ЗМАГАЮЦЦА ЗА СЯБЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**-- Валянціна Цімафееўна, ці не з'яўляецца стварэнне жаночай партыі тактыка-стратэгічным ходам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі перад выбарамі ў парламент?**

-- Устаноўчы з'езд нашай партыі прайшоў у красавіку мінулага года -- пра парламенцкія выбары тады яшчэ размова не ішла. Прэзідэнцкія выбары — так, абмяркоўваліся актыўна, але ніхто кандыдатуру старшыні Федэрацыі прафсаюзаў не вылучаў, хаця і былі прапановы. Праўда, доля ісціны ў сцвярджэнні пра нашы цесныя кантакты з прафсаюзамі ёсць ужо хаця б таму, што я сама працую ў прафсаюзах не першы год. У прыватнасці, працяглы час на адным з буйных прадпрыемстваў радыёэлектроннай прамысловасці.

**-- Як атрымалася, што вы заняліся "партыйнымі" справамі?**

-- Калі тры гады назад я прыйшла на працу ў арганізацыйны аддзел Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, у мае абавязкі ўваходзіла наладжваць кантакты з незалежнымі прафсаюзамі, канфедэрацыяй працы, з партыямі, з разнастайнымі маладзёжнымі, ветэранскімі і жаночымі рухамі.

Па адукацыі я матэматык-праграміст, інжынер. Работа ў мяне была адказная, шмат часу я праводзіла за камп'ютэрам -- распрацоўвала аўтаматызаваныя сістэмы. Калі здавала чарговую сістэму, заўсёды хвалявалася: прымуць -- не прымуць, падпішуць -- не падпішуць. Але калі я праходзіла па цэхах і бачыла, у якіх умовах працуюць жанчыны непасрэдна на вытворчасці, ля станкоў, то думала: як добра, што я атрымала вышэйшую адукацыю і мне не трэба працаваць у такіх жахлівых умовах, як гэтыя жанчыны-работніцы. А іх жа яшчэ чакае не менш цяжкая хатняя праца, а да таго бясконцыя чэргі ў крамах...

Нядаўна трапіла на мітынг, арганізаваны рабочымі аднаго з буйных мінскіх прадпрыемстваў. І вось выйшлі жанчыны з гальванікі, паказваюць ногі ў ранах... Жахліва. Усё-такі ў мой час працы на прадпрыемстве, яшчэ тры гады назад, адміністрацыя звяртала ўвагу і на ахову працы, і былі ў прадпрыемстваў грошы, каб купіць спецадзенне, і нейкія сацыяльныя праблемы вырашаць. Цяпер жа ўсё горш і горш: прадпрыемствы ледзь выжываюць. І жанчынам-працаўніцам таксама жывецца горш. Таму, калі я прыйшла сюды працаваць, то вырашыла, хаця абавязкаў шмат, у першую чаргу дапамагчы жанчыне.

**-- І з чаго ўсё пачалося?**

-- Спачатку ад імя Федэрацыі прафсаюзаў мы заключылі дамову з Саюзам жанчын. Спадзяваліся: адна арганізацыя добра, але разам лепей. Прыкладна год працавалі разам. няблага ўсё атрымлівалася.

Тады і з'явілася думка тывізаваць жанчын праз палітыку. Мы не ставілі мэту нейкага першынства сярод жаночых арганізацый, проста хацелі быць ініцыятарамі і падштурхнуць да больш актыўных дзеянняў асобных жанчын, так і цэлых ночыя арганізацыі.

Аглядваюся на шлях, ужо пройдзены, і мне здаецца, што дасягнулі мы нямала, прынамсі, жаночая тэма "гучыць".

У беларускай палітыцы гэтая "жаночая" ніша была не запоўнена. За намі кінуліся наўздагон і іншыя партыі -- мусіць, іх падштурхнулі вынікі выбараў у Расіі, дзе палітычны рух "Жанчыны Расіі" меў значны поспех. Таму раптам апамяталіся і левыя, і правыя -- пра жанчын жа яны забыліся.

Але да нас ужо прыйшло таксама шмат жанчын. Менавіта тады я даведалася, што на Беларусі створана каля трыццаці (!) жаночых рухаў. Ёсць сярод іх і Ліга жанчын, і Хрысціянска-дэмакратычны рух, і Фонд Ефрасінні Полацкай, і аб'яднанні мнагадзетных маці, бацькоў дзяцей-інвалідаў, нават ёсць спроба стварыць грамадскую арганізацыю адзінокіх маці і шмат-шмат іншых.

**-- Колькі чалавек на сёння налічвае жаночая партыя "Надзея"?**

-- Прыблізна дваццаць тысяч. У нас толькі на ўстаноўчым сходзе было 400 чалавек. Выстаўляць свае кандыдатуры будзем у трэці акруг -- гэта прыблізна 90 чалавек. І, мяркуючы па сацыялагічных апытаннях, наш рэйтынг сёння нядрэнны -- 3-5 месца сярод некалькіх дзесяткаў партый. Каб паспяхова вырашаць праблемы жанчын, трэба мець сапраўды моцную, уплывовую ў сферах як заканадаўчай, так і выканаўчай улады структуру. Зараз жанчынам трэба змагацца за сябе.

**-- Валянціна Цімафееўна, калі змагацца за нейкія палітычныя мэты, то, можа, лепей гэта рабіць у рамках ужо існуючых партый, не абмежаваных полам удзельнікаў? Я не ўпэўнена, але мне часам здаецца, што калі ствараецца менавіта жаночая партыя, -- гэта своеасаблівая праява ўсё той жа жаночай закамплексаванасці: жанчыны настолькі няўпэўненыя ў сабе, што не вераць, быццам у звычайнай партыі, дзе большасць мужчын, яны здольны праявіць сябе. І таму зноў вымушаны адасабляцца, зноў застаюцца выціснутымі з агульнапартыйнага жыцця...**

-- Хутчэй, тут можна разважаць пра нашу жаночую слабасць. Хаця, я лічу, увогуле жанчына ў параўнанні з мужчынам больш цягавітая, больш абавязковая. Я пра сябе ведаю, наколькі я моцная: і дом, і праца, а яшчэ і грамадская дзейнасць... А наконт таго, каб мне ўступаць у саперніцтва, напрыклад, з Трусавым ці Пазняком... Я лічу, не гэта мне патрэбна. Па перакананнях я сацыял-дэмакрат, гэта значыць -- дэмакратычная дзяржава і ўсе тыя праблемы, якія блізкія, дарэчы, прафсаюзам. У іншых партыях, мне здаецца, на першае месца выходзяць трошкі іншыя задачы. Ды і наогул у нас ужо столькі "мужчынскіх" партый... І сапраўды, там пакуль яшчэ "праб'ешся" праз іх шчыльныя рады...

Ёсць яшчэ адзін аспект, магчыма, і суб'ектыўны. Апошнія чатыры гады мы жывем, як у час вайны. У нас ідзе вайна ідэалогій, поглядаў... Усю ўладу, усе тры яе галіны -- заканадаўчую, выканаўчую, судовую -- "захапілі" мужчыны. Хаця "захапілі" -- не зусім дакладна: мы аддалі яе ім, як гэта заўсёды і было. І сёння робіць палітыку "элітны" мужчынскі розум. А мы, жанчыны, як у час вайны -- у тыле, на чарнавой працы, цягнем увесь воз і чакаем: ну калі ж яны там перастануць "ваяваць"? Мы ўсё з надзеяй глядзім і глядзім на іх... І ўжо моташна стала: не атрымліваецца нічога, трэба, мабыць, падстаўляць сваё плячо, -- і падстаўляем.

**-- А вас не бянтэжыць, што ў час парламенцкіх выбараў шмат хто з жанчын будзе галасаваць за партыю "Надзея" ў значнай ступені з-за нейкай жаночай карпаратыўнасці, а не з-за пераваг вашай выбарчай праграмы?**

-- Я лічу, што людзі стаміліся ад палітыкі, а жанчыны тым больш. І на гэтых парламенцкіх выбарах будуць галасаваць не столькі за праграму кандыдатаў у дэпутаты, колькі за канкрэтную асобу. Што тычыцца нашай партыі... На гэты раз, у адрозненне ад мінулых гадоў, у жанчын няма ніякіх квот, ніякіх прывілей, мы і[illegible] на агульных падставах з [illegible]. І гэта нармальна на даным этапе, мы нічога не патрабавалі і не прасілі. Хаця, трэба сказаць, у іншых дзяржавах да жанчын адносяцца па-іншаму.

**-- Якая мя[illegible]ецца быць праграма ваш[illegible]артыі?**

-- Над канчатковым варыянтам нашай праграмы мы яшчэ працуем, але яна будзе адрозніваецца і ад праграмы сацыял-дэмакратычнай партыі, і ад любой іншай сваёй прыземленасцю.

Мы не гонімся за знешнім фактарам, своеасаблівай рэкламнасцю, мы думаем, як жыць сённяшнім канкрэтным людзям у сённяшніх канкрэтных умовах. Хто-хто, а мы, жанчыны, ведаем тое кола пытанняў, што зараз неабходна адстойваць і вырашаць. Напрыклад, харчаванне дзяцей. Я ўяўляю стан тых жанчын, якія цяпер засталіся без працы, а трэба карміць дзяцей. Паглядзіце, пры фарміраванні гадавога бюджэту на абарону дадатковыя грошы знайшлі, а на тое, каб зрабіць у школах бясплатныя сняданні, -- не. Атрымліваецца: армія, гарматы, танкі важней, чым здароўе дзяцей. Мы, жанчыны, усе жыццёвыя праблемы адчуваем на ўласнай шкуры. Разам з тым у нас сабраліся жанчыны, якія не патрабуюць, а самі шукаюць выйсце з цяжкай сітуацыі. І таму так важна, каб менавіта яны трапілі ў заканадаўчы орган улады. Увогуле наша заканадаўства, якое мы маем, нядрэннае, але вельмі ж часта адарванае ад рэальнага жыцця.

Ведаеце, калі мы толькі абвясцілі сваю партыю, шчыра прызнаюся, я насцярожана сачыла за рэакцыяй на гэтую падзею з боку мужчын: сапраўды, баялася нават насмешак. Але прынялі нас вельмі паважліва.

**-- Як вам здаецца, жаночыя праблемы ў нашай краіне носяць нейкі агульнасусветны характар ці яны больш спецыфічныя?**

-- Хутчэй -- больш спецыфічныя. Месяц назад я была ў Любляне, дзе Савет Еўропы праводзіў сімпозіум па праблемах роўнасці мужчын і жанчын. Нам яшчэ трэба прайсці значны шлях, каб дасягнуць таго, што ўжо ёсць у іншых, і тады мы таксама будзем спрачацца, каму сядзець дома, калі нарадзіцца дзіця, або дзе лепей тое дзіця выхоўваць -- дома ці ў дзіцячым садку...

**-- Валянціна Цімафееўна, як вядома, на Захадзе не толькі жаночыя праблемы носяць іншы характар, увогуле палітычная атмасфера там зусім іншая, у тым ліку і палітычная культура. У нас жа, калі ідзе гаворка пра жанчыну -- члена партыі (можа я крыху і утрырую), паўстае вобраз, калі і не ў скуранцы і з рэвальверам у руцэ, дык усё ж асобы даволі мужчынападобнай, суровай, нават фанатычнай -- мабыць, спрацоўвае гістарычны і сацыяльны вопыт. Як вы ставіцеся да такіх "жанчын-камісараў"?**

-- Я баюся жанчын-камісараў, можа таму, што сама чалавек неканфліктны. Хаця здараюцца сітуацыі, калі неабходна праявіць і строгасць, і цвёрдасць. Асабіста я з такой неабходнасцю сутыкалася, калі была старшынёй прафкома на прадпрыемстве. Але ўсё ж такі мне не падабаецца, калі нехта "зрываецца". І нават тады, калі некаторыя дзеянні нашых цяперашніх улад мы не прымаем, наша партыя будзе выступаць супраць гэтага ўзважана, спакойна, не выклікаючы стрэсаў у грамадстве. Мы -- за яднанне ў грамадстве, за пошук мірных шляхоў агульнага паратунку.

**-- Вы так цёпла гаворыце пра сваіх калег-жанчын, а які асабіста для вас самы прывабны вобраз жанчыны? Кім яна павінна быць у першую чаргу: маці, гаспадыняй ці можа дзелавой жанчынай, грамадскім дзеячам, а можа проста рамантычнай асобай? Хто вам бліжэй па духу?**

-- Наогул, сама я вялікі рамантык у душы, езджу ў горы, нават ваджу туды іншых, магу цэлую ноч спяваць ля вогнішча...

Вы пытаецеся, якой павінна быць жанчына? Мне здаецца, для таго, якой яна павінна быць у ідэале, у нас пакуль не склаліся ўмовы. Магчыма, і палітыка -- у ідэале -- не павінна так ужо моцна цікавіць жанчыну. Прынамсі, асабіста мне ў палітыцы даволі цяжка.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ І ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Вярнуць, нарэшце, веру ў саміх сябе. Трэба вярнуцца да традыцыйных каштоўнасцей, якімі жыве кожная цывілізаваная нацыя. А такія каштоўнасці якраз і ўвасабляе ў сабе хрысціянская дэмакратыя. Менавіта на гэтых каштоўнасцях жыве і развіваецца еўрапейская цывілізацыя вось ужо дзве тысячы гадоў.

Хрысціянская дэмакратыя і палітычныя арганізацыі і згуртаванні, што стаяць на яе пазіцыях, не з'яўляюцца канфесійна-рэлігійнымі і тым болей клерыкальна-царкоўнымі арганізацыямі. Яна толькі абапіраецца на асноўныя маральныя прынцыпы, выкладзеныя калісьці ў Евангеліі і лёгшыя ў фундамент усёй еўрапейскай культуры. Удзельнічаць у яе шэрагах можа чалавек не толькі любой хрысціянскай, але і нехрысціянскай канфесіі (мусульманін, будыст альбо іудзей) і нават увогуле няверуючы, калі асабістыя яго погляды не супярэчаць азначаным хрысціянскім маральным прынцыпам.

У Заходняй Еўропе хрысціянская дэмакратыя вядомая ўжо даўно. Менавіта ідэі хрысціянскай дэмакратыі процістаялі там цяжкаму сацыяльнаму крызісу ў другой палове мінулага стагоддзя, што прывёў да ўзнікнення марксізму, да дзвюх катастрафічных сусветных войнаў і да глыбокага духоўнага заняпаду, наступствы якога працягваюцца і цяпер. У пасляваенныя дзесяцігоддзі менавіта яна садзейнічала адраджэнню разбуранай вайною эканомікі Еўропы і аздараўленню духоўнага жыцця трагічна падманутага Гітлерам нямецкага народа. І ўсё тое стала магчымым таму, што хрысціянская дэмакратыя абапіралася і абапіраецца ў сваёй дзейнасці не толькі на эканоміку, але і на дух: на веру і самасвядомасць, на рэлігію і мараль. Хрысціянская дэмакратыя разглядае і эканоміку, і духоўную культуру як дзве ўзаемадапаўняльныя часткі аднаго і таго ж цэлага -- здаровага і справядлівага дабрабыту народа ва ўмовах гармоніі душы і цела.

Хрысціянская дэмакратыя не навіна і для Беларусі. Яшчэ ў траўні 1917 года ў Петраградзе была арганізавана Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, ідэі якой існавалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі аж да 1939 года, калі былі задушаны нарэшце НКУСам бальшавікоў. У 1991 годзе Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць была адроджана і распачала актыўную дзейнасць, хоць і ёй стараліся шкодзіць розныя пракамуністычныя і прарасійскія сілы, ствараючы фармальныя цяжкасці пры яе рэгістрацыі і стараючыся раскалоць яе знутры. І цяпер вось, дарэчы, уладамі выдадзены новы недэмакратычны закон аб палітычных партыях, які мае мэтаю зноў абцяжарыць работу такіх нешматлікіх яшчэ палітычных згуртаванняў, як Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць.

Тым не менеі БХДЗ, як і вылучаная з яе складу Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя, нягледзячы на ўсё, існуюць і дзейнічаюць. Ідэі хрысціянскай дэмакратыі падтрымліваюцца ў прынцыпе не толькі імі, але і такімі грамадскімі і палітычнымі згуртаваннямі, як Беларускі народны фронт, Беларускі хрысціянска-дэмакратычны жаночы рух, Беларуская нацыянальна-дэмакратычная партыя, Беларуская сялянская партыя. Хрысціянска-дэмакратычная ідэя наогул уяўляецца зараз найбольш падыходзячай стратэгічнай асновай для дзейнасці самых розных грамадскіх рухаў і палітычных партый, шчыра зацікаўленых у адраджэнні самастойнай Беларускай дзяржавы і яе матэрыяльнай і духоўнай культуры. Яна заглыбляецца сваімі каранямі ў далёкае гістарычнае мінулае беларускага народа, што вельмі важна для ўзнаўлення яго нацыянальнай самасвядомасці. З другога боку, яна адкрывае дакладнае бачанне будучыні, што таксама неабходна для далейшага развіцця Рэспублікі Беларусь у правільнай не толькі эканоміка-тэхналагічнай, але і маральна-духоўнай яго перспектыве. Найбольш падыходзіць хрысціянска-дэмакратычная ідэя для Беларусі яшчэ і таму, што дыяпазон распаўсюджання і ўплыву яе ў народзе можа быць вельмі шырокім, пачынаючы ад вясковай бабулі, якая верыць у Бога на міфалагічным узроўні і стараецца жыць згодна боскаму закону, і канчаючы вытанчаным інтэлігентам-тэхнаром, што можа прыйсці да разумення Бога і абсалютнасці сацыяльна-прыродных законаў і каштоўнасцей праз самыя тонкія вышыні свайго прафесійна-лагізаванага інтэлекту. Апошняе асабліва важна для нашай рускамоўнай інтэлігенцыі, што ўсё яшчэ не можа самаакрэсліцца ў сваіх палітычных сімпатыях і міжвольна ці вольна выступае нярэдка супраць інтарэсаў уласнай Айчыны.

Бязбожна-матэрыялістычная марксісцкая ідэалогія, як вядома, пацярпела ганебны крах менавіта з-за свайго матэрыялізму і ўстаноўкі толькі на эканоміку, матэрыяльную сілу і гвалтоўны прымус, хоць многае і сама запазычыла ўпотай з хрысціянскай ідэалогіі. Пасля гэтага краху ў нас утварыўся небяспечны ідэйны вакуум, які можа запоўніцца самай нечаканай і нядобрай ідэалогіяй, як тое здарылася, [illegible]ыклад, у 1933 годзе ў Гер[illegible] з філасофіяй Ніцшэ (ніцшэанства, дарэчы, як і некаторыя іншыя дэструктыўныя філасофскія плыні, пачынае актыўна распаўсюджвацца пэўнымі сіламі і ў нас на Беларусі). Так што і тут могуць свабодна аб'явіцца і нават праскочы[illegible] з выбарах свае жырыноўскі[illegible]ркашовы. Нешта блізкае да гэтага, зрэшты, мела ўжо нядаўна ў нас месца. Таму ў азначаным важным аспекце хрысціянска-дэмакратычная ідэя падыходзіць тут больш, чым што-небудзь іншае. Тым болей, што якраз яна мае і глыбока распрацаваную магутную, філасофскую базу, свабодную ад прымітывізму матэрыялістычнай аднабаковасці і скептычнага нігілізму.

Хрысціянска-дэмакратычная ідэя, нарэшце, вельмі добра стасуецца да сучасных сацыяльна-палітычных абставін на Беларусі і ў аспекце нацыянальнай іх спецыфікі. Беларуская нацыянальная культура і самасвядомасць фармаваліся, як вядома, на шматканфесійнай аснове, у якой галоўную ролю адыгрывалі праваслаўе і каталіцызм. Хрысціянска-дэмакратычная ідэалогія менавіта ў сілу сваёй надканфесійнасці можа зняць ці, па крайняй меры, неяк нейтралізаваць тое шматвяковае процістаянне паміж гэтымі дзвюма канфесіямі і цэрквамі, што адыграла такую трагічную ролю ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, процістаянне, якое не без падтрымкі з некаторага боку становіцца адчувальным, на жаль, і цяпер. Менавіта таму яна і завецца хрысціянскаю дэмакратыяй, што дае законны голас кожнай канфесіі, уздымаючы яго на ўзровень агульнахрысціянскіх каштоўнасцей і ўз'ядноўваючы іх у адзіным хрысціянскім сумоўі. Аналагічную ж, дарэчы, ролю яна можа адыграць і ў галіне міжнацыянальных адносін, узнімаючыся такім чынам і на ўзровень раўнапраўнага ўзаемадзеяння з нацыянальнымі меншасцямі, з аднаго боку, і з агульначалавечай культурай, з другога, аўтаматычна засцерагаючы Беларускую дзяржаву і яе культуру ад унутранай і знешняй нацыянальнай абмежаванасці і самаізаляцыі.

У канкрэтна-палітычных адносінах беларуская хрысціянская дэмакратыя таксама мае выразную прынцыповую лінію, якая лагічна выцякае з яе ідэйна-філасофскай сутнасці і якая арыентуецца на наступныя зыходныя пункты.

Па-першае, беларуская хрысціянская дэмакратыя лічыць асноўнай сваёй задачай захаванне дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Гэта галоўная ўмова, без якой усё астатняе губляе свой сэнс. Выратаваць нас у сучасных абставінах можам толькі мы самі, г.зн. наша ўласная незалежная і самастойная дзяржава, якая абавязана клапаціцца аб лёсе народа і сама ж выступае як выражэнне яго ўсеагульнай волі. Дзяржава для нас, хрысціянскіх дэмакратаў, -- гэта не марксісцкая машына для падаўлення варожых класаў і не прымусовы апарат для камандавання зканомікай з апорай на матэрыяльную сілу, як тое было ў камуністаў, не дыктатура камуністычнай партыі, а ўвасабленне духу народа і яго самасвядомасці. Гэта, як пісаў яшчэ вялікі Гегель, рэальнасць маральнай ідэі. Таму яна з неабходнасцю павінна насіць дэмакратычны характар і карыстацца ў народа поўным даверам. Не страх перад гвалтам, а маральны аўтарытэт -- вось асноўная сіла і моц хрысціянска-дэмакратычнай дзяржавы. Менавіта тое і мелася на ўвазе ў вядомым евангельскім тэзісе "ўсялякая ўлада ад Бога".

Сказанае аўтаматычна накладвае пэўныя патрабаванні і на людзей, што ўвасабляюць сабой дзяржаву: каб поўнасцю адпавядаць народнаму даверу, яны павінны быць бездакорнымі ў маральных адносінах. Тыя асобы, напрыклад, якія займаюць цяпер кіруючыя крэслы ва ўладных структурах нашай рэспублікі, глыбока скампраметаваныя прамымі або ўскоснымі сувязямі з пачварнымі злачынствамі камуністычнай партакратыі, жадаючыя здаць Беларусь як калонію пад уладу Расійскай імперыі зла і проста вульгарна скарумпаваныя, не маюць ніякага права там болей знаходзіцца. Гэта абавязкова трэба ўлічваць і пры выбарах дэпутатаў у Вярхоўную Раду рэспублікі. Дзяржава складаецца не толькі з акрэсленых законам юрыдычных структур, а і з людзей, якія структуры тыя ўвасабляюць і рэалізоўваюць. Дзяржаўныя структуры ў нас больш-менш абноўленыя, а людзі ў іх -- усё тыя ж самыя былыя партыйна-камсамольскія наменклатуршчыкі. Нават на прэзідэнцкай пасадзе знаходзіцца чалавек з дэманстратыўна пракамуністычным мысленнем і з выразным нігілізмам у адносінах да суверэнітэту ўзначальваемай ім дзяржавы і яе нацыянальнай культуры. Усё гэта сведчыць аб тым, што і ў народзе страчана ўжо глыбінная вера ў тое, што дзяржава з'яўляецца выразнікам волі народа і магутным інструментам яго матэрыяльнага і духоўнага дабрабыту. Таму і выбары прыводзяць да сараматных вынікаў. Рэформы ў эканоміцы таксама амаль што спыніліся з той жа прычыны: азначаныя людзі з уладных структур, вядома ж, тармозяць іх. І ў адрозненне ад рымскіх салдатаў, крыжаваўшых Хрыста, гэтыя выдатна ведаюць, што яны твораць.

Па-другое, эканоміка, нягледзячы ні на што, не павінна лічыцца чымсьці галоўным і прыярытэтным, як тое лічылася ў марксісцка-ленінскай ідэалогіі і па інерцыі лічыцца і цяпер. Не дух падпарадкоўваецца целу, а наадварот, цела --духу, бо не хлебам адзіным жывы чалавек. Калі гэта, вядома, чалавек, а не быдла. І ў гэтым сэнсе самым страшным злачынствам і перад Богам, і перад людзьмі было б, напрыклад, прамяняць дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь як рэальнасць духоўнай самастойнасці беларускага народа на сачавічную поліўку эканамічнай выгады, будзь тое нафта альбо той жа газ, як намерваюцца зрабіць нашы цяперашнія кіраўнікі. І на Захадзе, што паказана было яшчэ Лістам, Веберам, Зомбартам і іншымі выдатнымі эканамістамі, гаспадарчыя поспехі былі дасягнуты не столькі пагоняй за асабістай матэрыяльнай выгадай, колькі тым, што Макс Вебер называў у свой час "духам капіталізму", дзе галоўную ролю адыгрывала рэлігійная этыка. Таму і эканоміка павінна быць не чыста канкурэнтна-рыначная, дзе моцны бязлітасна душыць слабага і багацце грэбліва пагарджае галечай, а сацыяльна-рыначнай, г.зн. такою, дзе закон і дзяржава абараняюць справядлівыя патрэбы слабейшага і дзе правы індывіда на прадпрымальнасць дапаўняюцца і пэўнымі абавязкамі яго перад дзяржавай і іншымі людзьмі. Хрысціянска-дэмакратычная эканоміка ў якасці змешанай процістаіць, такім чынам, як дзікаму капіталізму XIX [illegible]эддзя з яго амаральным, [illegible]леным толькі на асабістае ўзбагачэнне індывідуалізмам, так і бяздушна-таталітарнаму сацыялізму савецкага ўзору з яго камандна-адміністрацыйнай сістэмай у эканоміцы і роўнасцю на ўзроўні ганебнай [illegible]асці і грамадства, і паасоб[illegible] чалавека.

[illegible]а-трэцяе, і гэта лагічна выцякае з папярэдняга, хрысціянская дэмакратыя вялікую ўвагу надае культуры і менавіта культуры духоўнай. Трэба сказаць, што ўсе нашы беды, у тым ліку і эканамічныя, паходзяць ад падзення духоўнай культуры, якое закладзена было ўжо ў самой марксісцка-ленінскай ідэалогіі з яе матэрыялізмам, зласлівым бязбожжам і ўстаноўкаю толькі на сілу. Сямідзесяцігадовае існаванне ў абставінах страху, галечы і халопскай безадказнасці маральна знявечыла наш шматпакутны народ, адбіла жаданне сумленна працаваць, навучыла паразітаваць і красці. Таму для яго поўнага адраджэння патрэбны не толькі здаровая эканоміка, але і здаровы дух. Пачварны духоўны крызіс нашага грамадства, які выяўляецца ў імклівым росце злачыннасці, распадзе сям'і і нездаровай сексуальнай маралі, што ў сваю чаргу вядзе да поўнага сацыяльнага разлажэння падрастаючага пакалення, сваімі каранямі ўзыходзіць менавіта туды.

Беларуская хрысціянская дэмакратыя лічыць таму сваім неадкладным абавязкам падтрымліваць беларускую нацыянальную культуру і ўсяляк клапаціцца аб ёй не толькі праз рыначныя адносіны, але і праз дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі. Культура і асабліва культура духоўная ў прынцыпе не можа быць прадажнай, і Хрыстос недарэмна павыганяў у свой час гандляроў з храма. Рэлігія, філасофія, навука, літаратура і мастацтва, не кажучы ўжо аб мове як фундаментальным носьбіту самой духоўнасці, -- усё гэта павінна актыўна развівацца і аб'ядноўвацца адзінай беларускай ідэяй як выразнік самасвядомасці беларускага народа, а значыць, і правадзейнасці яго як суб'екта дзяржаўнага суверэнітэту. Вялікае ж значэнне надаеццаа выхаванню і адукацыі праз школу і ВНУ, якія ў былым савецкім грамадстве накіраваныя былі пераважна на падрыхтоўку людзей-рабоў, што абслугоўвалі матэрыяльную вытворчасць і ў канчатковым выніку ваенна-прамысловы комплекс, замест таго каб выхоўваць свабодную і ў той жа час маральна забавязаную, духоўна багатую грамадзянскую асобу з выразнай нацыянальнай самасвядомасцю. Цяперашні духоўны крызіс многім быў прадвызначаны такім тэхнакратычным накірункам савецкай школы, якім ён, дарэчы, застаецца і па сённяшні дзень. Не будзе перабольшаннем сказаць, што кардынальная рэформа беларускай нацыянальнай школы зараз гэтак жа стала неабходнай, як і рэформа ў эканоміцы. І, вядома ж, беларуская школа павінна працаваць на мове сваёй дзяржавы -- на беларускай мове.

Не меншае значэнне надае хрысціянская дэмакратыя і сям'і, гэтай не толькі асноўнай ячэйцы грамадства, але і важнейшай ступені ў сістэме маральна-этычнага выхавання падрастаючага пакалення. Апошняе мае асабліва вялікую важнасць у абставінах катастрафічнага распаду сексуальнага жыцця народа, што прыводзіць да яго не толькі духоўнага, але і фізічнага выраджэння (падзенне нараджальнасці, распаўсюджванне палавых збачэнняў, абвальны рост венерычных захворванняў і, нарэшце, страшлівы СНІД). Умацаванне сям'і з'яўляецца адной з найважнейшых мэтаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

І па-чацвёртае, дзяржава, што будуецца на хрысціянска-дэмакратычных ідэях, павінна быць моцнай і ў гэтым сэнсе таксама абапірацца на сілу. Але сілу, якая кіруецца выключна духоўнымі, маральнымі прынцыпамі. Мы не з'яўляемся прыхільнікамі псеўдахрысціянскай тэорыі абсалютнага непраціўлення злу. Паколькі хрысціянская дэмакратыя разглядае дзяржаву як уладу ад Бога, яна мае права і на прымяненне сілы. І асабліва цяпер, калі яшчэ больш, можа, чым у часы Іаана, свет ляжыць у зле, злу павінна быць процістаўлена сіла. Менавіта бязбожна-цынічным злачынцам -- забойцам, гвалтоўнікам і рабаўнікам, што гайсуюць зараз па нашаму жыццю, адрасаваны словы Хрыста, што не мір ён прынёс ім, а меч. Менавіта пра іх было сказана, што лепей ім жарон на шыю ды ў марскую ваду. Той жа меч будзе ўзняты і супраць тых, хто пасягне на незалежнасць нашай дзяржавы як дадзенага Богам увасаблення самастойнасці народнай душы. Хрысціянам заўсёды ўласцівы быў рыцарскі дух, і мы не павінны забываць пра гэтую высакародную традыцыю, што ідзе яшчэ з часу Вялікага Княства Літоўскага і выяўляецца на гербе "Пагоня". Асабліва трэба памятаць тое нашай абяздоленай, задуранай рокам і сексам моладзі. Хай кожны злачынца, што падніме руку на грамадзяніна Беларусі альбо на яе незалежнасць, ведае, што прадстаўнік хрысціянска-дэмакратычнай дзяржавы носіць не толькі крыж на шыі, але і на бядры сваім -- меч.

Дзве тысячы гадоў таму назад хрысціянствам былі агалошаны знакамітыя гаслы Веры, Надзеі і Любові. На тых гаслах грунтуецца і палітычная лінія хрысціянскай дэмакратыі. Хрысціянскія дэмакраты ўпэўнены, што, толькі кіруючыся гэтымі прынцыпамі, можна будзе выйсці з пагібельнай прорвы, у якой апынулася пакутніца наша Беларусь. Толькі гэтымі прынцыпамі трэба будзе кіравацца і пры выбарах у склад нашай Вярхоўнай Рады новых, сапраўды адпавядаючых тым вялікім прынцыпам, крыштальна чыстых ад бруду мінулага людзей. Толькі ім са спакойнай душой можна будзе даверыць залапанае рукамі прайдзісветаў стырно маладой беларускай дзяржавы. Тады і пра нас змогуць сказаць славутыя словы: тым перамажаш. І вернуцца зноў да нас Вера, Надзея, Любоў. Вернецца нармальнае чалавечае жыццё.

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**прафесар,**
**доктар філасофскіх навук,**
**старшыня Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай партыі.**

*З БЛАГАСЛАВЕННЯ МІТРАПАЛІТА ФІЛАРЭТА*

# АХВЯРЫ ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ

Аб масавых рэпрэсіях 20--50-х гадоў напісана і сказана нямала. Асобы інтарэс да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі тлумачыцца перш за ўсё імкненнем выкрыць таталітарызм у мінулым і сучасным, не дапусціць яго паўтарэння. Прыадчыніліся архівы, паступова павялічваецца спіс работ па гэтай праблеме, і ўсё часцей з'яўляецца спакуса заявіць: "Усё ясна!", "Усё вядома!".

Многія ўсё-такі разумеюць, што гэта памылка. Але ў той жа час прайшло ўжо больш пяці гадоў, як аднавіўся працэс масавай рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20--50-х гадоў, а ў нас у рэспубліцы так і не адбылося ніводнага істотнага мерапрыемства, на якім была б дадзена ацэнка рэпрэсіўнай палітыкі перыяду 20--50-х гадоў і стану работы дзяржаўных органаў па рэабілітацыі тых, хто бязвінна пацярпеў у гады тэрору.

І ўсё-такі такое мерапрыемства адбылося. Па благаславенню мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі 20 лютага 1995 года ў Мінскім Епархіяльным Упраўленні быў праведзены семінар, прысвечаны праблемам аднаўлення гістарычнай справядлівасці і правоў жыхароў Беларусі, якія пацярпелі ў перыяд палітычных рэпрэсій 20--50-х гадоў.

Характэрнай асаблівасцю яго было тое, што ў рабоце семінара ўпершыню ўдзельнічалі не толькі свяшчэннаслужыцелі, але і гісторыкі, кіруючыя работнікі Пракуратуры, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства ўнутраных спраў, архіўных устаноў, сродкаў масавай інфармацыі. На абмеркаванне ўдзельнікаў семінара былі вынесены паведамленні: "Палітычныя рэпрэсіі 20--50-х гадоў у Беларусі", "Аб праблемах даследавання рэпрэсій супраць жыхароў Беларусі ў 20--50-я гады ў іншых дзяржавах і рэабілітацыі ахвяр тэрору", "Беларуская праваслаўная царква і рэпрэсіі 20--50-х гадоў".

У іх прагучала шмат лічбаў. У прыватнасці, па афіцыйнай статыстыцы, на тэрыторыі Беларусі ў 20--50-я гады было рэпрэсіравана звыш 600 тысяч чалавек, а па неафіцыйнай, толькі за яе межамі за гады Савецкай улады пацярпела не менш 1 мільёна 300 тысяч нашых землякоў. Размова ішла перш за ўсё аб праблемах вывучэння рэпрэсій супраць ураджэнцаў Беларусі ў лагерах ГУЛАГа, НКУС: паўторна прыцягнутых да крымінальнай адказнасці за так званыя "контррэвалюцыйныя злачынствы", мабілізаваных у дзеючую армію ў 1941--1943 гадах з лагераў і спецпасёлкаў у штрафныя батальёны; якія трапілі ў палон у гады вайны і потым апынуліся ў савецкіх лагерах і турмах, членах сем'яў так званых "ворагаў народа" і "здраднікаў Радзімы" і іншых катэгорыях грамадзян, што сталі ахвярамі беззаконнасці.

Асобая ўвага была нададзена разгляду ходу працэсу рэабілітацыі. Адзначалася, што к студзеню 1995 года ў Беларусі было рэабілітавана каля 190 тысяч чалавек, асуджаных судовымі і несудовымі органамі ў 20--50-я гады, і каля 30 тысяч рэпрэсіраваных у адміністрацыйным парадку. Гэта складае ўсяго 35 працэнтаў ад агульнай колькасці грамадзян, рэпрэсіраваных на тэрыторыі рэспублікі ў 20--50-я гады. Выказвалася заклапочанасць, што калі працэс рэабілітацыі будзе працягвацца такімі тэмпамі, то ён завершыцца ва ўстаноўлены тэрмін да канца 1996 года.

У ходзе дыскусіі было разгледжана многа прынцыпова важных пытанняў, вырашэнне якіх можа рэальна паўплываць на паскарэнне працэсаў рэабілітацыі, увекавечання памяці ахвяр тэрору, аказанне рэальнай дапамогі пацярпеўшым і членам іх сем'яў.

З вялікай увагай было сустрэта выступленне мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. Ён адзначыў, што ў адпаведнасці з рашэннем Сінода пачаліся работы па ўзвядзенню ў Мінску Храма-помніка ў гонар усіх святых і бязвінна забітых і Дома міласэрнасці.

Удзельнікі семінара прынялі рашэнне аб наданні яму статуса пастаянна дзеючага, каб прадоўжыць сумесную работу.

Сярод найбольш важных прапаноў можна вылучыць наступныя: аб падрыхтоўцы міждзяржаўнага пагаднення аб абмене прававой інфармацыяй аб рэабілітацыі жыхароў Беларусі ў краінах СНД; аб распрацоўцы праграмы сацыяльнай рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій і членаў іх сем'яў; аб стварэнні ў Мінску сквера Памяці і ўстанаўленні Каменя смутку ў памяць аб усіх загінуўшых у гады тэрору і некаторыя іншыя.

І ўсё-такі адбылася падзея, якую многія ўжо і чакаць пераcталі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# ЛІЧБА ТРЫНАЦЦАЦЬ — НЕШЧАСЛІВАЯ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Потым размова перакінулася на СБМ. На пытанне, ці была я членам СБМ, дала станоўчы адказ і дадала: "Я толькі распісалася на паперы, але ніякай прапаганды не вяла". Рэакцыя была імгненнай: "А ў паліклініцы вы таксама не займаліся антысавецкай прапагандай?"

Так чатыры дні ганялі па кабінетах. Дапытвалі розныя следчыя. Аднаго прозвішча, здаецца, Кампанец. У час чарговага допыту ён стукнуў мяне па твары. Ад удару прыкусіла язык, і з рота пайшла кроў...

Потым накіравалі ў санпрапускнік. Там абрэзалі валасы, выцягнулі гумкі з вопраткі, шнуркі з абутку, забралі асабістыя рэчы і "пасялілі" ў камеру.

*-- Аб чым вы думалі, знаходзячыся ў камеры "Крывога кола"?*

-- Увесь час мяне не пакідала думка: а што з маёй дачкой? Яшчэ ў кабінеце, дзе начавала першыя дні, такое пытанне задавала новым следчым. "Вы не маеце права быць маці", -- гаварылі яны мне.

Гэтым яны дапякалі без канца. Суседкі па камеры суцяшалі.

*-- А калі пачаліся допыты?*

-- Праз тыдні тры. На адным з іх следчы пытаў:

-- Была ў фашысцкай арганізацыі?

-- Не.

-- Насіла зялёную форму?

-- Насіла, бо не было чаго апрануць. У рабоце гурткоў не ўдзельнічала, бо голасу і дыкцыі ў мяне няма. А вучылася, каб мець спецыяльнасць...

-- Ах, шкада, вельмі шкада, што цябе не забралі ў Германію.

Аднойчы следчы паказвае пісьмо да Фурсевіча і пытае, ці яно маё. Я адказала. "А што тут напісана?" -- цынічна здзекаваўся кат. Хлопцаў з нашай медшколы забралі ў армію, і яны, вядома, цікавіліся пра студэнцкае жыццё: навінамі, дзе гуляем, пра танцы... А сталінскія следчыя лічылі гэта антысавецкай прапагандай.

*-- Вы ўсе пратаколы падпісвалі?*

-- Тыя, што ў крымінальнай справе, падпісвала. Але многія паперы следчыя рвалі, бо яны былі без подпісу. Калі стала атрымліваць падзатыльнікі, то ўсюды распісвалася.

*-- Ці былі спатканні з роднымі да суда?*

-- Я бясконца патрабавала гэтага. На адным з допытаў заявіла, што калі не ўбачу сваю сям'[illegible] то не буду адказваць на пытанні сл[illegible]. Нарэшце прыехаў муж. Ён мяне [illegible]акойваў, што разбяруцца, што ён хадайнічае... А я ўсё пыталася пра Кацю, яе здароўе...

*-- Раскажыце, калі ласка, як праходзіў судовы працэс.*

-- 13 верасня [illegible]51 года раніцай з турмы "чорны во[illegible] даставіў мяне ў суд, што на вуліцы [illegible]йбышава, насупраць касцёла. Там зачыталі абвінавачанне: сувязь з беларускімі нацыяналістамі; антысавецкая прапаганда; у перыяд акупацыі займалася ў нямецкай медшколе, арганізаванай беларускімі нацыяналістамі і фашыстамі; насіла форму члена СБМ, знойдзеныя дакументы і фотаздымкі пацвярджаюць гэтыя факты. Але прамыя абвінавачанні адсутнічалі.

І далей. Пасля вайны, працягваючы вучыцца ў Баранавічах, займалася антысавецкай прапагандай. Мела сувязь з людзьмі, якія ўзводзілі паклёп на савецкую рэчаіснасць.

Адвакат, даволі маладая жанчына, прасіла абмежавацца 10 гадамі лагернага рэжыму з паражэннем у правах і канфіскацыяй маёмасці. Гаварыла мудрагелістымі юрыдычнымі словамі. Прасіла ўлічыць, што ёсць сям'я, дзіця...

Пасля выхаду з залы суда каля варот убачыла маму. Але канваіры на штыках занеслі мяне ў "чорны воран". І зноў павезлі ў "Крывое кола".

*-- Вы не спрабавалі абскардзіць прыгавор?*

-- Пасля суда мяне перавялі ў іншую камеру. Потым выклікалі да незнаёмага следчага. Ён сказаў, каб я пазнаёмілася з прыгаворам і пісала касацыйную скаргу. І гэта патрэбна было зрабіць на працягу 72-х гадзін. Я напісала ўсё, як было, у Вярхоўны Суд рэспублікі. А праз тыдзень ці можа болей мяне перавялі ў цэнтральную турму Баранавіч.

А перад Кастрычніцкімі святамі 1951 года атрымала адмоўны адказ на сваю скаргу, пасля гэтага павезлі па этапу. Паднялі ў тры ці чатыры гадзіны раніцы і пагналі праз увесь горад на станцыю. Ішоў дождж, і я ўся прамокла. Добра, што родныя перадалі фуфайку і нейкія чаравікі. Ішлі калонай па чатыры чалавекі. Ахова -- салдаты з сабакамі. Гналі асуджаных на цэлы састаў. Пагрузілі ў цялятнікі і павезлі на перасылку ў Оршу. Там была да снежня. Умовы ўтрымання страшныя: спёртае паветра, клапы, парашы... І розныя асуджаныя: злодзеі, крымінальнікі, прастытуткі... Былі і бойкі, і забойствы. У пачатку снежня зноў этап. Але не ўсіх, з камеры бралі выбарачна. Цялятнік меў двух'ярусныя нары. Павезлі ў бок Ленінграда. Некаторыя казалі, што на Салаўкі. Але цягнік праз пяць сутак спыніўся на станцыі Ерцава Архангельскай вобласці. Там выгрузілі, запоўнілі дакументы і адправілі ў перасыльны пункт на каранцін. За месяц нагледзелася ўсяго: і крадзяжоў, і забойстваў, і насілляў... Страшна было. Думала, не вытрымаю. Ад напружання і рэжыму ўпершыню адчула боль у сэрцы.

*-- Тэрмін каранціну скончыўся, і вас накіравалі...*

-- У лагпункт N 23, што ў м[illegible]ку Кончына, на лесапавал. Там нас было прыкладна 500 чалавек. Тэрыторыя лагера абнесена шчыльным высокім плотам, на ім быў дрот пад токам, вышкі для вартавых. У лагернай зоне меўся будынак адміністрацыі, сталовая, медсанчасць, магазін, клуб, 12 баракаў... Ці былі ўмовы для жыцця? Зімой цярпелі страш[illegible] холад. Спалі ў вопратцы і валёнках, [illegible]уржуйка" не паспявала абагрэць памяшканне.

*-- Раскажыце пра лагерны рэжым, харчаванне і г.д.*

-- Новага я тут нічога не адкрыю. Пра гэта ў апошні час шмат напісана.

Мацнейшыя жанчыны пілавалі дрэвы, слабейшыя -- ссякалі сучкі. Зімой працавалі ў адну змену па 8 гадзін. А вечарам маршам зноў ішлі да прахадной. Прыйдзеш у барак і валішся з ног ад стомы і душэўных пакут.

Як кармілі? Хлеба давалі 600 грамаў. Асноўным блюдам лічылася траска. Побач было мора, і рыбы было ўдосталь. Часам у супе ці баршчы з'яўляўся кавалачак мяса. Наогул, харчаванне залежала ад выканання даведзеных норм. Іх мы выконвалі дзякуючы добрай жанчыне Таццяне Рудзінай, якая вяла ўлік работы. Тое-сёе можна было купіць і ў магазіне, калі атрымлівалі грошы. Там быў чорны хлеб, цукеркі, халва, пячэнне, рыба... Дазвалялі атрымліваць у месяц адну пасылку і два пісьмы.

Касілі хваробы. Неяк сама прамачыла ногі, падскочыла тэмпература, і я ледзь прыпаўзла з лесу. Так хадзіла яшчэ некалькі дзён. Потым -- санчасць, лагерная бальніца, дзе я праваляласл два месяцы. Там далі інваліднасць і пакінулі працаваць, як медыка, на прыёме хворых.

Стала крыху лягчэй. Нават хацелі камісаваць, але не дазвалялі артыкулы, па якіх была асуджана. А калі даведаліся, што я акушэрка, то ўрач Багданава прапанавала: "А ці не хочаш ты бліжэй да дому?" І мяне восенню 1953 года перавялі ў Літву, у горад Шылуці, дзе быў лагер для маці і дзяцей. У радзільным доме зняволеныя жанчыны знаходзіліся 10--15 дзён, а потым дзяцей перадавалі ў дом дзіцяці, дзе яны знаходзіліся да трох год. Пасля іх забіралі родныя асуджаных ці адпраўлялі на волю ў дзіцячыя ўстановы.

Лагер у свой час будавалі немцы, і за яго сценамі ўтрымлівалі савецкіх ваеннапалонных. Але тут я знаходзілася нядоўга. Мяне перавялі ў радзільны дом і пры ім далі пакой. Апошнія два гады была як вольнанаёмная, хаця без канвою немагчыма было выйсці з зоны.

*-- Ірына Пятроўна, знаходзячыся ў лагеры, вы звярталіся куды-небудзь з просьбай аб датэрміновым вызваленні?*

-- Пісала. Доўга ўсюды пісала, але станоўчага рашэння не было. Усе мае прашэнні падшыты ў архіўнай крымінальнай справе, і я не вельмі ўпэўнена, што яны даходзілі да адрасата. На заявы часцей прыходзілі дыпламатычныя адказы: "Ваша крымінальная справа ў стадыі разгляду". Пасля смерці Сталіна была амністыя для крымінальнікаў, але не для палітычных вязняў. Хаця мы адчувалі, што хутка вызваляць і нас. Аб гэтым гаварыла і лагернае начальства.

16 мая 1955 года мяне выклікаў начальнік лагера Хаменка (у кабінеце прысутнічаў і начальнік трэцяга аддзела) і сказаў, што я вызвалена датэрмінова...

*-- І вы вярнуліся на радзіму?*

-- Не. З урачамі лагернага раддома я была ў добрых адносінах, і яны мне далі рэкамендацыю для працаўладкавання ў Вільнюсе. А напярэдадні вызвалілася з лагера Валянціна Воранава, у якой прымала роды. Жанчына пакінула свой вільнюскі адрас. Калі я туды прыехала, то яна парэкамендавала мяне медсястрой на завод, дзе сама працавала. Праз паўгода райздраўаддзел перавёў акушэркай у радзільны дом.

Праўда, я была і ў Клецку, але работы тут не далі, хаця толкам ніхто нічога не ведаў аб маёй крымінальнай справе. І мне нічога не заставалася, як забраць дачку і ехаць да Валянціны ў Вільнюс, дзе 30 год (да 1986 года) адпрацавала акушэркай у раддоме.

*-- Прабачце, як склаўся лёс Каці?*

-- Яна закончыла Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, мае спецыяльнасць інжынера-будаўніка. Цяпер працуе ў Вільнюсе на заводзе "Жальгірыс". Замужам. Ёсць у мяне 13-гадовы ўнук...

*-- І калі з вас знялі ярлык палітычнага злачынцы?*

-- Пленум Вярхоўнага Суда СССР 1 лістапада 1967 года адмяніў прыгавор Баранавіцкага аблсуда ад 13 верасня 1951 года і ўсе наступныя рашэнні і поўнасцю рэабілітаваў. Маю дакумент адпаведнага ўзору, і мне выплачана матэрыяльная кампенсацыя за час, праведзены ў пекле сталінскіх выпраўленча-працоўных лагераў.

А вось хто кампенсуе мне маральны ўрон? Хто адновіць страчанае на лесапавале здароўе? Хто ўвекавечыць памяць тых невінаватых вязняў, якія не вярнуліся назад, хто закапаны ў зямлю за тысячы кіламетраў ад родных месцаў?!

*-- Ірына Пятроўна, усё ж хачу ўдакладніць. Чаму вы лічыце, што лічба 13 нешчаслівая?*

-- Маю рацыю. Глядзіце, мяне судзілі ў Баранавічах 13 верасня. Бацька памёр 13 жніўня, а маці -- 13 лютага...

**Інтэрв'ю правёў Уладзімір САЗАНОВІЧ.**

ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ Уладзіміра СЛУЧАНСКАГА

# У СЭРЦЫ СМУТАК, ЖАЛЬ І НЕПАКОЙ

Натура, шматгранна адораная, настойлівая, Уладзімір Случанскі ўвесь час працаваў над сабой, вучыўся, папаўняў свае веды. У 1967 годзе ён атрымаў запрашэнне стаць курсантам лекцый "Сучасная зброя і асновы стратэгіі", якія чыталіся на нямецкай мове і працягваліся два гады.

З беларусаў ён быў там адзін. Пасля гэтых лекцый, у 1969 годзе, Уладзімір Случанскі паступіў на вячэрнія курсы ў Каралеўскі інстытут тэхналогіі ў Мельбурне і скончыў яго з ганаровым дыпломам у 1972 годзе. У гэты час яго незвычайна захапіла ідэя распрацаваць ваенную форму і знакі ўзнагароды беларускага вайскоўца, паколькі на эміграцыі працягваў існаваць Беларускі вызвольны фронт, краёвы штаб БВФ быў перанесены ў Сіднэй і яго з 1982 года ўзначаліў Уладзімір Шнэк, змяніўшы на гэтай пасадзе А.Алехніка. Да 40-гадовага юбілею БКА ён зрабіў 10 калярровых паасобнікаў альбома "Беларуская краёвая абарона. Уніформа і адзнакі, 1944--1984", пераслаў іх у Галоўны штаб БВФ генералу Д.Касмовічу ў Германію. Праз некаторы час генерал паведаміў, што змясціў альбомы ў найбольш вядомыя музеі і бібліятэкі. (Копія аднаго такога альбома знаходзіцца ў Беларускім аддзеле нашай Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску).

Усе гэтыя абавязкі, актыўная грамадская дзейнасць не перашкаджалі, аднак, быць добрым сем'янінам, матэрыяльна забяспечваць сям'ю. Доўгі час Уладзімір Случанскі працаваў інжынерам-дызайнерам у аддзеле даследавання і развіцця электраўпраўлення штата Вікторыя, адкуль і пайшоў на пенсію. У апошнія гады ён неаднойчы прымаў удзел у розных сусветных канферэнцыях. Асабліва запомніліся паездкі на канферэнцыі Сусветнай антыкамуністычнай лігі ў 1987 і 1989 гадах, якія адбываліся адпаведна ў гарадах Тайбеі (Тайвань) і Брысбене (Аўстралія). Першы раз з ім паехалі жонка і дачка Рагнеда, як прадстаўніца беларускай моладзі. Прынялі іх у Тайвані як паўнапраўных дыпламатычных прадстаўнікоў суверэннага народа, з ганаровай вартай. Тут яны пазнаёміліся са шматлікімі палітычнымі дзеячамі Захаду, дыпламатамі і вайскоўцамі, прадстаўнікамі іншых народаў. На канферэнцыі беларуская дэлегацыя распаўсюдзіла інфармацыю пра становішча на Беларусі, пра чарнобыльскую катастрофу, пра злачынствы ў Курапатах. Праз увесь час канферэнцыі бел-чырвона-белы сцяг красаваўся на мачце гатэлю пад ахovай ганаровай варты Тайваньскай гвардыі, а меншы сцяжок з надпісам "Беларусь" знаходзіўся на стале пастаяннага месца беларускай дэлегацыі паміж Балгарыяй і Канадай. Рагнеда на пасяджэннях Сусветнай антыкамуністычнай моладзі прачытала даклад аб адраджэнскім руху беларускай моладзі на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Вярнуліся яны з Тайваня задаволеныя вынікам сваёй працы на канферэнцыі, здалі справаздачу агульнаму сходу беларусаў у Мельбурне.

Памятнымі для сям'і Уладзіміра Случанскага былі вандроўкі ў розныя краіны, якія яны маглі сабе дазволіць амаль штогод. Пабывалі, падарожнічаючы на савецкім цеплаходзе "Аляксандр Пушкін", на астравах Ціхага акіяна, наведалі Новую Каледонію, падарожнічалі па Інданезіі, пабывалі ў Тайландзе, у Бангкоку, Малайзіі, Сінгапуры. Асабліва ім палюбіўся востраў Балі (Інданезія) -- гэты сапраўдны рай на зямлі, дзе круглы год пануе лета, раслінасць трапічная, вечназялёная, людзі ветлівыя, гасцінныя, прытрымліваюцца сваіх традыцый, мовы. І ўсё ж гэтыя незвычайныя ўражанні, экзотыка чужых краін не маглі патушыць у сэрцы Уладзіміра Случанскага любові да Бацькаўшчыны. Ці не яго ўласныя думкі выказвае герой аповесці "Братчына", вяртаючыся з далёкіх заморскіх краін у родны Полацак: "Побач край які! У Царградзе з маленства папрызвычаіліся і забыліся, як тут добра і ўтульна! Няма палацаў бліскучых, няма ўбораў роўных, няма і галасу таго, але затое лясы якія, палеткі неабдымныя! Кветак размаітых поўна, аж у вачах рэжа! А пах які!... Чар! Вось так, напэўна, у раі!.."

Відаць, кожнаму чалавеку, які даўно пакінуў радзіму, яна, далёкая, недасягальная, заўсёды здаецца раем. Але Уладзімір Случанскі, уважліва сочачы за ўсімі падзеямі, што адбываліся на Беларусі за паўстагоддзя яго адсутнасці, добра ведаў і разумеў яе цяжкасці. Як мог, ён наладжваў сувязі з Бацькаўшчынай, перапісваўся з многімі случакамі, дапамагаў у арганізацыі вайсковага музея ў Слуцку, даслаў краязнаўцу Р.Родчанку матэрыялы па гісторыі другой сусветнай вайны, завязалася перапіска з Вырбанецкімі Шыхтамі, з таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны, з БСДГ, са школьным гуртком "Валошка" з вёскі Куцькі, з прыватнымі асобамі. У пачатку 1993 года аўстралійскія беларусы прымалі на адпачынак дзяцей з Беларусі. У сям'і [illegible]каў жыла дзесяцігадовая Волька Кліменка з Магілёва. Дзеці правялі восем тыдняў у Мельбурне. Ім паказвалі цікавыя мясціны ў штаце Вікторыя, наладзілі медыцынскае абследаванне ў вядучай аўстралійскай супрацьракавай клініцы, накупля[лі] дарункаў. Такія стасункі з Бацькаўшчынай цешылі і сагравалі душу выгнаннікаў.

Гэтыя вехі жыццёвай біяграфіі Уладзіміра Случанскага, які амаль усё сваё свядомае жыццё правёў на эміграцыі, цесна звязаны з яго творчасцю як мастака-жывапісца і пісьменніка, які прысвяціў свой талент Беларусі. Творчая актыўнасць яго прыпадае на другую палову 50-х—60-я гады, калі быў напісаны раман "Драбы", аповесць "Братчына", вершаваны сказ "Аброк Кіеву", публіцыстычныя артыкулы, у якіх асабліва адчувальны яго балючы роздум пра гісторыю, мову, сучаснае становішча Беларусі: "...Так зла-жыліся гістарычныя абставіны, што страціла Беларусь не толькі сваю магутнасць, незалежнасць ды сваё сапраўднае гістарычнае імя, але і здольнасць аднадушна ўстаць у сваёй абароне ды пазбавіцца чужацкага прыгону і знявагі. Ды не толькі знявагі, але дайшло і да поўнага адмаўлення існавання беларусаў як нацыі. Дайшло нават да таго, што і мову нашу родную беларускую забаранілі як неіснуючую. Забаранілі яе ўжываць ва ўрадавых установах, школах, у друку. Мову нашу пачалі ганьбіць, называць хамскай, мужыцкай, лапцюжнай, нязграбнай і грубай, ды нарэшце абвясцілі, што гэта зусім не мова, а проста скалечаны дыялект "русского языка". Аднак гэтыя ганьбіцелі добра ведалі і ведаюць, што мова гэта беларуска-лапцюжная не так даўно была моваю навукі і культуры на ўсходзе Еўропы, мовай прыдворнай у каралеўскіх харомах Кракава ды царскіх палатаў Масквы. Мова гэта была дыпламатычнай мовай славянскіх княжых двароў, мовай летапісаў і гандлёвых падрахункаў ды спісаў. Мова перадавая, прыгожая, багатая, ласкавая, выразная. Мова, на якой была выдрукавана першая кніга на славянскім усходзе -- Біблія Францішка Скарыны, мова, на якой у некалькіх выданнях выдаваўся Статут Вялікага Княства Літоўскага -- найбольш дасканалы юрыдычны дакумент на цэлую Еўропу. Пры гэтым трэба не забывацца, што Вялікае Княства Літоўскае -- гэта наша, і толькі наша Беларуская дзяржава, ды нічога супольнага з сённяшняй Летувой, а ў мінулым званай Жмуддзю, не мае.

Чаму ж тады такі забойчы націск на гэту мову? Каму і дзеля чага спатрэбілася знішчаць мову беларускую?

Добра вядома, хто безупынна імкнецца прыляпіць нашым абшарам мянушкі накшталт "крэсы всходне" ці "северо-западный край" Расійскай імперыі. Але трэба ведаць, а захопнікі гэта добра ведаюць, што гэтыя мянушкі не прыліпнуць, пакуль існуе беларуская мова, мова асобная і асобнага народа. Значыцца, спачатку зняваж мову, а тады зусім яе знішчы --знікне і народ, бо мова -- гэта душа народа. Таму так і стараліся ды надалей стараюцца нашыя "дабрадзейныя" суседзі: знішчыць мову, знішчыць народ ды загарнуць сабе багатую спадчыну. Апускаюцца нават да такіх недарэчнасцяў, асабліва нашыя суседзі з усходу, што заклікаюць да нібыта "гістарычных супольных традыцыяў", "спрадвечнай дружбы", "супольнай мінуўшчыны". Якая наглая і бессаромная хлусня! Супольныя традыцыі: тады, як у Вялікім Княстве Літоўскім працвіталі рыцарства, навукі, культура і юстыцыя, у Масکоўшчыне панавалі цемрашальства, прыгон і забабоны. Супольная мінуўшчына, спрадвечная дружба? Гэтая дружба ніколі нічым другім не адзначалася, як толькі лязом мяча ды агнём. Не будзем ужо казаць аб супольнай "дружбе" сучаснасці, адзначанай такімі пэрламі "братэрства", як заграбаванне Смаленшчыны, Віленшчыны, Дзьвіншчыны, Беласточчыны, Чарнігаўшчыны, падмацаванае Курапатамі, Чарнобылем, канцлагерамі Сібіры ды безліччу іншых падобных.

Але, як і кожная жывая істота, Беларускі Народ бароніцца як можа ад згубы, бароніць сваю мову, свае звычаі і сваё Я. Бароніцца ўжо больш як два стагоддзі..." ("Кароткі нарыс гісторыі фармавання і дзейнасці Беларускай Краёвай Абароны").

Так непрымірыма-бескампрамісна беларускія дзеячы замежжа ставяцца да нацыянальнага бязладдзя на Бацькаўшчыне, уяўляюць яе краінай шматпакутнай, забранай, але нязломленай, жыватворнай сваімі векавымі традыцыямі еўрапейскай дзяржавы.

Да раскрыцця гэтых традыцый і звернуты раман Уладзіміра Случанскага "Драбы". У лісце да аўтара гэтага артыкула пісьменнік адзначаў (5.5.1994): "...Узяўся я пісаць "Драбы" са злосці ці роспачы. Справа ў тым, што ўсе нашыя празаікі і паэты толькі і знаюць, што аплакваюць злую долю, бяду і прымус, а плачам і стогнамі моладзь не падыймеш да змагання, не павядзеш да ахвярнасці і патрыятызму. Моладзі патрэбна героіка! Ёй патрэбны нашы собскія Спартакі, Робін Гуды, Квенцін Дорварды, д'Артаньяны... Патрэбны прыклад, варты наследоўвання. У кожным разе я так уважаў і ўважаю. Вось з гэтымі думкамі я і ўзяўся пісаць. Было вельмі цяжка, бо ўсё гэта рабілася, можна сказаць, на калене, у цягніку, у часе перарываў на працы, а часам, як прыйдзе думка, хаваючыся ў часе працы. Блакнот і алавік у мяне заўсёды напагатове. А працавалі мы тут шмат і цяжка, акрамя гэтага сямейныя і грамадскія абавязкі, брак гістарычных даведак, асабліва імёнаў і гістарычных мапаў, вельмі дакучалі. Падтрымкі ад сяброў было вельмі мала... Вось так і сталася, што распачатая другая частка "Драбаў" так і засталася няскончанай. Як бачыце, сур'ёзна я не займаўся пісаннем, а толькі так час ад часу, як кажуць, для аблягчэння душэўнага..."

Можна ўявіць гэты душэўны стан аўтара, калі пісьменніцкая фантазія і ўласная памяць вялі яго на радзіму, у тыя далёкія стагоддзі, калі яна была адной з магутнейшых і паважаных дзяржаў свету.

Пісьменнік раскрывае эпоху вялікага князя Вітаўта, Гаспадара Літоўскага, той перыяд, калі ён са сваім войскам выратаваў краіны Заходняй Еўропы ад татарскага нашэсця, нягледзячы на тое, што пацярпеў паражэнне на рацэ Ворскле. Гэта першы ў сучаснай беларускай літаратуры раман на такую тэму, ніхто яшчэ да У.Случанскага з нашых пісьменнікаў у тыя гады не звяртаўся да падобных гістарычных тэм ("Драбы" былі выдадзены ў Мельбурне ў 1958 годзе). І празаік сапраўды захапіўся патрыятычнай ідэяй -- стварыць вобразы маладых, мужных беларускіх рыцараў, паказаць іх самаадданае служэнне народу і радзіме.

У яшчэ больш аддаленыя стагоддзі звернуты аповесць "Братчына" (Сказ аб падарожніках Горгію і Саўку -- аб слаўным Гаспадару Полацкім князю Расціславу) і паэма "Аброк Кіеву" (Сказ аб Рацібору, тысяцкім з Іскарасценя). Творы гэтыя, па прызнанню аўтара, напісаны для хатняга чытання дзецям, калі яны яшчэ хадзілі ў школу, заснаваную беларусамі па прыездзе ў Аўстралію. Сваім дочкам-школьніцам Уладзімір Случанскі наогул шмат расказваў пра гісторыю Беларусі, чытаў ім вершы Янкі Купалы, паэму Л.Случаніна "Рагнеда", па памяці апавядаў пра перамогі князя Альгерда, мужнасць вялікага князя Вітаўта, мудрасць Льва Сапегі, друкі Ф.Скарыны. А для хатняга, чытання напісаў ім захапляюча цікавыя кніжкі пра смелага, кемлівага юнака Горгія, асілка Саўку, якія дапамаглі князю Расціславу выкрыць здраду нядобрасумленных купцоў-змоўшчыкаў, і пра мужную абарону драўлянамі, якія сяліліся і жылі па рэках Прыпяць і Случ, свайго горада ад войска княгіні Вольгі. Творы гэтыя, як і раман "Драбы", праілюстраваныя ўласнаручна аўтарам выдатнымі малюнкамі.

Аднак, калі аповесць "Братчына" больш дасканалая ў мастацкіх адносінах, відаць, пісьменніцкае прызванне Уладзіміра Случанскага ўсё ж проза, то сказ "Аброк Кіеву", напісаны вершам, патрабуе сур'ёзнай дапрацоўкі, ды і сам аўтар лічыць яго толькі спробай вершаванага апавядання, хаця згадвае, з якой увагай і зацікаўленасцю слухалі яго некалі дзеці, быў часамі смех, былі і слёзы, як і безліч пытанняў.

Сёння нам толькі застаецца пашкадаваць, што напісана У.Случанскім так мала, што яго несумненны талент празаіка не змог раскрыцца ва ўсёй глыбіні і шматграннасці. Нават гэтыя яго першыя спробы ў асэнсаванні гістарычнай тэмы паказвалі, колькі ён мог бы напісаць цікавых твораў, каб жыццё склалася па-іншаму, каб не стаў ён выгнаннікам, а жыў на сваёй Бацькаўшчыне, якая магла б спрыяць нацыянальным талентам. Магла б,.. а не вынішчала ў ГУЛАГах, не выштурхоўвала за свае межы. Пакуль што яна паспрыяла таму, што праз дзесяцігоддзі ізаляванасці і нематы беларусы-эмігранты пачынаюць прыязджаць на Бацькаўшчыну, вяртаць ёй усё лепшае са сваёй духоўнай спадчыны.

У 1993 годзе пабываў і Уладзімір Случанскі на Беларусі. Яны з братам Алегам былі запрошаны на Першы з'езд беларусаў свету. Па дарозе ў Мінск Уладзімір Случанскі завітаў у Маскву, дзе пазнаёміўся з маскоўскімі беларусамі: братамі Алесем і Янкам Глодамі, Антонам Сабалеўскім, Ганнай Рыжкоўскай, якая была ягоным гідам па Маскве.

Радасныя і сумныя, светлыя і трывожныя пачуцці ахапілі яго, калі ён пасля паўстагоддзя ступіў на зямлю Бацькаўшчыны! Найпершае спатканне з Мінскам, удзел у рабоце з'езда, дзе ён быў як паўнамоцны дэлегат ад Беларускага вызвольнага фронту, выступаў з прамовай. Па прапанове палкоўніка М.Статкевіча Уладзімір Случанскі быў прыняты ў шэрагі Беларускага згуртавання вайскоўцаў і атрымаў пасведчанне ВЗВ пад нумарам А-001, што ён палічыў для сябе вялікім гонарам. Як удзельнік з'езда, разам з іншымі дэлегатамі Уладзімір Случанскі пабываў у Брэсце, Камянцы, Белавежскай пушчы, на Нарачы, у Пінску, Лідзе. Купальскую ноч правялі каля Наваградка над Нёманам, пад водбліскі зачараваных купальскіх вогнішчаў, гукі песняў і музыкі.

І некалькі незабыўных дзён хадзіў ён па Слуцку. "Гэта была мара праз усе гады выгнання, і нарэшце яна здзейснілася! Колькі хвалюючых успамінаў перапаўняла душу, якое шчасце -- зноў пахадзіць па сцежках маленства і ранняга юнацтва, адналіць незабыўнае, -- успамінае пісьменнік. -- Гэта было шчасце вяртання на Бацькаўшчыну, здавалася, пакінутую назаўсёды, але якая ніколі не забывалася на далёкай чужыне".

Спыніўся ў гасціннай сям'і Родчанкаў, пабываў у краязнаўчым музеі, пазнаёміўся з кіраўніком літаратурнага гуртка ў Слуцку Кастусём Цыбульскім і сябрамі гуртка, якія чыталі госцю свае вершы. Наведаў 5-ю школу, у якой некалі вучыўся, Летні сад, прайшоў па старых вуліцах Слуцка, якія з цяжкасцю пазнаваў, бо яны забудаваны шматпавярховымі гмахамі. З'ездзіў у вёску Ляднае, Ульянаўку, мястэчка Раманава -- і быццам зноў вярнуўся ў незабыўна-шчаслівыя гады дзяцінства.

Не мог, вядома, не наведаць Вольку Кліменку і яе бацькоў у Магілёве, быў запрошаны ў Ліду на адкрыццё помніка Францішку Скарыне... Як хутка праляцелі дні на Бацькаўшчыне! І ўспамінаў пра гэту падзею хопіць на ўсё жыццё! З Беларусі Уладзімір Случанскі завітаў да сваіх сяброў у Англію -- да Хахолкаў і Алеся Гатковіча, затрымаўся ў Лондане ў Міхалюкоў, агледзеў гістарычныя мясціны сталіцы Англіі. Вярнуўшыся дамоў у Аўстралію пасля нялёгкага і хвалюючага падарожжа, Уладзімір Случанскі жыве згадкамі пра Бацькаўшчыну, якую не можа забыць сэрца беларуса, прысвячае ёй вершы:

**"Мілейшай сэрцу краіны**
**не знойдзеш!**
**Зімой, вясной і летам,**
**восеньскай парой.**
**Край, мілы, родны мой,**
**расстаўся я з табой,**
**А ў сэрцы смутак,**
**жаль і непакой.**
**Жыву табой".**

**Лідзія САВІК.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 9.**

# ВІШНЕВА ІХ ПАМЯТАЕ

Валожыншчына... Маляўнічы куточак Беларусі. Радзіма вядомай беларускай паэткі Канстанцыі Буйло і Уладзіславы Луцэвіч -- жонкі, спадарожніцы народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Тут, у Вішневе, упершыню сустрэліся яшчэ маладыя Канстанцыя Антонаўна і Уладзіслава Францаўна. А яшчэ ў Вішневе Канстанцыя Антонаўна дзяўчынкай пазнаёмілася з Эміліяй Станкевіч, выкладчыцай французскай мовы, маці незабыўнай Уладзіславы Францаўны.

"Мы моцна здружыліся, -- піша ў аўтабіяграфіі Канстанцыя Буйло, -- малая дзяўчынка і ўжо старэючая жанчына. Яна давала мне кніжкі, а потым стала маёй настаўніцай. І яна больш дапамагла мне ў вучэнні, чым найлепшая школа".

Шчаслівы лёс Канстанцыі Буйло як паэткі пачынаўся з Янкі Купалы. Купала ўпершыню заўважыў малады талент, разгадаў чулую душу паэтэсы, якая стала паплечніцай на нялёгкім шляху барацьбы за свабоду і шчасце народа. Янка Купала рэдагаваў першы зборнік вершаў Канстанцыі Буйло "Курганная кветка", які выйшаў у Вільні ў 1914 годзе. Незадоўга да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Янка Купала прапанаваў выдаць яшчэ адзін зборнік таленавітай беларускай паэтэсы. Канстанцыя Антонаўна перапісала ўсё, што лічыла вартым, і адаслала ў Мінск. Але рукапіс згарэў разам з домам Купалы.

У музеі паэта захоўваецца вялікая перапіска Канстанцыі Антонаўны і Уладзіславы Францаўны, пачынаючы з 1945 па 1960 год. Шматлікія фатаграфіі расказваюць пра іх сяброўства і адданасць Бацькаўшчыне.

Навуковыя супрацоўнікі музея падрыхтавалі выставу, якая так называлася: "Люблю наш край..." Уладзіслава Луцэвіч і Канстанцыя Буйло -- вядомыя дзеячы культуры, нашы землякі з Валожыншчыны". Было вырашана перадаць выставу Вішнеўскай школе, якая носіць імя Канстанцыі Буйло.

Праз некаторы час вучні і настаўнікі Вішнеўскай школы пазнаёміліся з цікавымі экспанатамі выстаўкі. Да іх у госці завіталі навуковыя супрацоўнікі музея, беларускія пісьменнікі. Была наладжана вечарына.

З цікавасцю прысутныя слухалі ўспаміны пра Уладзіславу Францаўну і Канстанцыю Буйло пляменніцы Янкі Купалы -- Ядвігі Рамаўскай. Яна захавала ў сваім сэрцы шчырыя пачуцці і вялікую павагу да гэтых людзей. З хваляваннем гаварыла Ядвіга Юльянаўна пра Уладзіславу Францаўну, яе клопаты пра музей, якому сёлета спаўняецца 50 гадоў.

Заслужаны работнік культуры Беларусі Аляксей Слесарэнка прачытаў верш Тэраня Масэнкі "Беларускай маці" ў перакладзе П. Прыходзькі, прысвечаны Уладзіславе Луцэвіч. Паэт Віктар Шніп прачытаў свае новыя вершы і перадаў Вішнеўскай школе часопісы "Першацвет", дзе былі змешчаны неапублікаваныя вершы паэта, перакладчыка, краязнаўца Валожыншчыны Пятра Бітэля. Пётр Бітэль доўгі час працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Вішнеўскай школе, пакінуў пасля сябе добрую памяць.

І якое было здзіўлен[illegible]сцей, калі ў канцы вечарыны па прапанове дырэктара школы ўсе вучні ўсталі і пачалі спяваць школьны гімн на словы Канстанцыі Буйло "Люблю". Трэба было бачыць твары вучняў! Як радасна, захапляюча дзеці [illegible]нвалі песню:

**"Люблю наш край,**
**старонку гэту,**
**Дзе я радзілася, расла..."**

І ў нас на вачах былі слёзы радасці, слёзы задавальнення ад таго, што жыве роднае слова ў душах, у сэрцах дзяцей, якія шануюць светлую памяць аб сваіх земляках.

У гэтым годзе на тэрыторыі Вішнеўскай школы будзе ўстаноўлены камень-валун. Памяць аб тым, што ў Вішневе нарадзілася і правяла дзіцячыя гады педагог і грамадскі дзеяч Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Бываючы ў Вішневе, заўсёды заходзім на вясковыя могілкі, каб пакланіцца светлай памяці Канстанцыі Буйло, прыпыніцца на хвілінку перад сціплым помнікам на магіле Пятра Бітэля.

Марыя ЧАБАТАРЭВІЧ.

**НА ЗДЫМКУ: К. БУЙЛО і У.ЛУЦЭВІЧ.**

**Выступае адзін са старэйшых калектываў мастацкай самадзейнасці Баранавіч -- народны драматычны тэатр, якому сёлета спаўняецца 40 гадоў.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# КЛІКАЛА РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

## З ПЕРАПІСКІ С. ГРАХОЎСКАГА З М. ЗАБЭЙДАМ-СУМІЦКІМ

*Прага. 3.1.1975.*

Даражэнькі Сяргей Іванавіч!

Вялікае Вам дзякуй за навагоднія пажаданні. Калі б ведаў, што Вы хварэеце, ужо даўно напісаў бы Вам другі раз, не чакаючы адказу на папярэдняе пісьмо. Ні папракаць, ні кепска думаць пра Вас мне і ў галаву не прыходзіла. Чалавек не жыве, як хочацца, а жыве, як можацца. Апрача таго, я ж чытаў у "Полымі" Вашы вершы і Ваш нарыс "Сейбіт дабра і гневу" і ведаю, колькі трэба папрацаваць, каб гэта напісаць. Чытаў, як заўсёды, з вялікай прыемнасцю і зацікаўленасцю. Успамінаў і Ваш нарыс "Для песень народжаны". А цяпер адказваю адразу (пісьмы ходзяць марудна), бо пра мяне тут гавораць, што прыношу людзям шчасце, вось жа і Вам пішу, каб Вы адразу выздаравелі, каб вярнуліся сілы душы, каб Вы і далей давалі людзям радасць сваімі творамі, ці вершамі, ці прозаю, ці проста шчырым словам.

Як добрага савецкага патрыёта парадуе Вас, магчыма, такі факт. Нядаўна ў пражскім радыё выступаў народны артыст Чэхаславакіі Карэл Пліцка, вядомы фалькларыст, мастак-фатограф і кінааператар. Выступаў з нагоды свайго 80-годдзя. Калі яго запыталі, што ў яго доўгім жыцці зрабіла на яго найвялікшае, незабыўнае ўражанне, К.Пліцка, між іншым, сказаў... "і беларуская калыханка ў інтэрпрэтацыі Міхала Забэйды". А чуў ён мяне 20 гадоў таму, калі я выступаў разам з найлепшымі артыстамі нацыянальнага тэатра. Гэта была для мяне мілая неспадзяванка, якая вельмі падтрымала мяне маральна.

У месяцы чэхаславацка-савецкай дружбы спяваў цэлы канцэрт па-чэшску, па-руску, па-славацку і па-беларуску. Пасля канцэрта адзін са слухачоў падышоў да нас і сказаў, што яшчэ ніхто не зрабіў на яго такога моцнага ўражання, як гэта выступленне, а быў гэта старэйшы чалавек, і відаць было, што гаворыць праўду. (Канцэрт быў у Багданчы). Цяпер рыхтуюся да выступлення ў лютым -- 28, але ці дажыву, не ведаю, бо сэрца адказваецца працаваць. І ўсё ж рыхтуюся. Хачу, пакуль жыву, быць карысным дзяржаве, у якой жыву, радзіме, якую ў сэрцы нашу, і усім добрым людзям, песні якіх спяваю.

А пісаць, па-мойму, трэба не толькі тады, калі нам добра, але і тады, калі нам кепска. Інакш я, бадай бы, не напісаў ніводнага ліста. Жыццё, як манета, мае два бакі...

Не буду, аднак, філасофстваваць. Хачу яшчэ раз пажадаць Вам, дарагі Сяргей Іванавіч, многа і надоўга добрага здароўя ў Вашай высакароднай працы, добрага настрою і шчасця. Найлепшыя пажаданні Вашым блізкім, а калі знойдуцца яшчэ, то супольным знаёмым.

З глыбокаю любоўю да Вас

**Ваш М.ЗАБЭЙДА.**

**P.S. Хацеў бы ведаць, ці атрымалі пісьмо. Адказваю ўсім, але не ўсе пісьмы даходзяць да адрасата.**

*Прага. 28.X.75.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за пісьмо (ад 5.X), за добрыя, сардэчныя словы. Вестка аб смерці Міхася Ціханавіча Лынькова і мне моцна забалела. Што ён хворы, пісаў мне Максім Танк, але я спадзяваўся, што перасіліць хваробу і яшчэ будзе жыць. ён жа толькі на год старэйшы за мяне. Яго смерць сапраўды вялікая страта і для літаратуры, і для людзей, якія яго, як і Вы, любілі. Хай родная зямелька яму лёгкай будзе!

А Вам, дарагі дружа, яшчэ суджана і "зямлю патаптаць", і многа зрабіць на радасць людзям. Я ўжэ 15 гадоў пасля першага інфаркту тапчу зямлю і 6 -- пасля другога. Вы ж на 13 гадоў маладзейшы за мяне. Дык даганяйце! Мо калі яшчэ і ўбачымся, і пагаворым, паўглядаемся на злату Прагу. Кожны раз, калі бываю ў Рыгровым парку (а ён цяпер цудоўны, столькі фарбаў!), мне здаецца, што хаджу з Вамі, размаўляю, дзялюся думкамі... (а блізкіх душы няма).

Жыву мастацтвам. 17-га чэрвеня пражскае радыё высылала беларускія песні ў маім выкананні. Меў з гэтага вялікую радасць. Радыё наогул цяпер найчасцейшы мой кампаньён, бо псуецца зрок, чытаць магу мала, пісаць таксама, вось і слухаю радыё, а маем тры праграмы, так што заўсёды знойдзецца нешта цікавае як з музыкі, так і з літаратуры. Часта высылаюць літаратуру і музыку савецкую. Асабліва люблю слухаць казкі: там заўсёды праўда перамагае, "правда вітэзі", як кажуць чэхі.

Падзякуйце Нілу Гілевічу за яго каштоўную працу, якая, як і Ваша творчасць, памагае мне адвесці душу. Шкада, што не маю ніводнае кнігі Лынькова, але аб ім чытаў шмат.

З удзячнасцю ўспамінаю ўсіх нашых пісьменнікаў, якія сваімі творамі набліжаюць мне радзіму, памагаюць больш пазнаваць яе, радавацца яе поспехам, больш яе любіць і больш аб ёй спяваць, уліваць і нашы песні ў сусветную культуру.

Шкада, што жыццё так хутка ўцякае, бо жыць чым далей, тым цікавей. Не канчаць хацелася б, а начынаць!..

Шлю самыя сардэчныя прывітанні і найлепшыя пажаданні. Моцна абдымаю. Не забывайце!

Шчыра Ваш

**М.ЗАБЭЙДА.**

*28.IY.1979.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Пытаецеся, як маюся. На жаль, з маім сэрцам вельмі дрэнна -- перастае працаваць. Ногі адмаўл[illegible]цца хадзіць. Нават пісаць [illegible]дна, але хачу падзякаваць Вам і маім прыхільнікам, калі такія яшчэ ёсць, за добрыя словы, бо заўтра можа быць позна...

Учора мусіў перастаць пісаць з-за сэрца. Сёння змагу дадаць яшчэ пару радкоў. Ці то надвор'е, ці даходзіць "бензін", але нягледзячы на лякарствы, якіх палыкаю кожны дзень многа, сілы мяне пакідаюць. Думаю, што найгорш мне шкодзіць цукроўка (сахарны дыябет), бо вымагае строгую дыету, а я, жывучы сам, мушу хадзіць у рэстаран, дзе дыету датрымваць трудна. А цукроўка робіць сваё: пасільняе іншыя хваробы і сама шкодзіць чалавеку, як толькі можа.

Нягледзячы на ўсё, стараюся быць карысным грамадству і перадаю маладым, калі сілы дазваляюць, сваё мастацтва, свой многагадовы вопыт, свой рэпертуар.

Набліжаецца вялікае свята -- Першае мая. Хадзіць, як раней, ужэ не магу, але буду слухаць радыёперадачы. "Пабываю" і ў Сав. Саюзе. Віншую! Жадаю Вам і Вашым блізкім дабра, бадзёрасці і шчасця.

Моцна абдымаю!

**Міхась ЗАБЭЙДА.**

*23.Y.1979.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за ліст, пісаны ў дзень Вялікай Перамогі. На гэта свята ніколі не забуду. Вельмі рад, што ў гэты дзень Вы і на мяне ўспомнілі. І я на Вас часта ўспамінаю. А час мінае так хутка, што аж не верыцца, што жыццёвы шлях канчаецца, хоць сэрца ўвесь час гэта прыпамінае. Нягледзячы на ўсе лякарствы, яно працуе так неправідлова, што адчуваю кожны яго рух, кожную затрымку, якая можа быць апошняй. "Можа быць, але не мусіць", -- думаю я і так цягну, змагаюся далей... І ногі не хочуць хадзіць. І вочы не хочуць бачыць.

Адным словам, яшчэ ніколі так дрэнна не адчуваў сябе. У галаве шуміць, шуміць і поўна розных мелодый альбо вершаў Пушкіна, Лермантава, Някрасава, што вучыў яшчэ ў школе: "Хожу[1]. ли я вдоль улиц шумных...", "Выхожу один я на дорогу", "Вырыта заступом яма глубокая" і гэтак далей. Але лекцыі спеву, якія яшчэ, калі здароўе пазваляе, даю, вяртаюць да жыцця. І радуюся, слухаючы свой рэпертуар з уст вучняў. Хай спяваюць, хай даюць радасць людзям, як гэта даваў я.

У Празе праходзіць міжнародны фестываль "Пражскае яро". Усюды музыка і спевы, але гарачыня да + 30 градусаў.

У Рыгровым парку ўсё цвіце. Усё кліча да новага, лепшага, прыгажэйшага жыцця. Хай жа будзе мір на свеце!

Жадаю Вам толькі ўсяго добрага.

Моцна абдымаю.

**Ваш М.ЗАБЭЙДА.**

[1] У Пушкіна — брожу ли.

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за пісьмо з перакладам Блока. Ваш пераклад мне вельмі падабаецца. Многа думак, вобразаў і музыкі. Чытаю часта і думаю, якая ж прыгожая наша мова, як развілася, як абагацілася за такі кароткі час. Чакаю далейшых перакладаў Вашых. Але не ведаю, ці дачакаюся, здароўе маё горшыцца. Часамі зусім не магу хадзіць: не трымаюць ногі. Хаджу з кульбакаю ды і то не заўсёды магу дайсці да сталоўкі. Мацуюся, як магу, і рады, што хоць частка мае працы, мае песні астануцца ў вучняў.

Надыходзяць Каляды і Новы год.

Жадаю ўсяго найлепшага як у мастацкай працы, так і ў жыцці асабістым. Не забывайце

Абдымаю.

**Ваш Міхась ЗАБЭЙДА.**

*Прага. 3.XII.1980.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую, што ўспомнілі. Апошні раз пісаў Вам у канцы мінулага года, дзякуючы за Блока, пераклад якога мне вельмі спадабаўся. Ад таго часу не меў ад Вас весткі, таму і Вам не пісаў, ведаючы, колькі маеце працы. Але часта пра Вас думаў, нават слухаў Вас на сваім магнітафоне, бо маю Ваша прыгожае выступленне на мінскім радыё...

Мне ужо, як напэўна чулі, стукнула 80 год. Чэшскі музычны фонд, вітаючы з жыццёвым юбілеем, напісаў прыгожае пісьмо, у якім вельмі высока ацаніў маю мастацкую цэлажыццёвую працу і вызначыў мне ўзнагароду, што мяне вельмі ўзрадавала, тым больш, што мая хвароба (і сэрца, і ногі, і вочы) перашкаджае паказвацца між людзьмі. І ўсё ж не забылі. Музыкальны народ чэхі! Напісалі, што сваёю працаю я абагаціў музычнае жыццё Чэхаславакіі. Шчыра ім за гэта падзякаваў.

Вельмі рады, што можаце працаваць. І я стараюся быць карысным грамадству. Кансультую сваіх бывалых вучняў, якія спяваюць мой бывалы рэпертуар. І так жыццё ўцякае. У нас настала злая, халодная зіма. Для людзей майго веку гэта трудная пара. Часамі трудна дайсці да сталоўкі. Хаджу ўжэ з кульбакаю нават у хаце, бо пры паду старыя косці ломяцца, а потым кепска зрастаюцца. Стараюся быць асцярожным, каб не ўпасці. Надыходзяць Каляды і Новы год -- 1981. Зычу Вам і Вашым блізкім, каб ён прынёс Вам многа здароўя, поспехаў і шчасця. "Цэламу свету мір, мір, мір". Шчыра дзякую ўсім, хто мяне памятае, і шлю найлепшыя пажаданні.

Сардэчна Ваш

**Міхась ЗАБЭЙДА.**

**P.S. Часам слухаю свае ранейшыя выступленні з запісу на плёнку і дзіўлюся, як многа гэтага было. І як мала з гэтага скарыстана на Радзіме.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 7—9.**

## НАША СТАРАЖЫТНАЯ СТАЛІЦА





Беларускае Адраджэнне можа і не дасягне, на вялікі жаль, гэтым разам свайго поўнага росквіту, але ўскалыхне народ, хоць нейкую яго частку выведзе са звыкла абыякавага стану, прыадчыніць вечка гісторыі, якая засведчыць наша няпростае слаўнае мінулае.

Вось і старажытны Навагрудак на гэтай адраджэнскай хвалі нібы пачынае новы віток у сваёй праслаўленай біяграфіі. Сёлета горад мае адзначыць дзве паважныя даты -- 950-годдзе з першага летапіснага ўпамінання аб ім і 400-годдзе заснавання гарадскога герба.

Пра былую магутнасць і веліч Навагрудка нагадваюць рэшткі замкавых муроў, акружаныя глыбокімі равамі, ды мураваная вежа на Малым замку. Навагрудак быў сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, галоўным горадам тагачаснай Беларускай дзяржавы, але ў апошнія 50 гадоў меў статус заштатнага раённага цэнтра.

На гербе Навагрудка выява архангела Міхаіла -- заступніка горада. У руках ён трымае меч і вагі. Сімвалы гэтыя былі не выпадковымі на гербе Навагрудка: вядома, што ўсе судовыя вердыкты Вялікага Княства Літоўскага выносіліся тут.

Апошнім часам у Навагрудку бываюць штогод тысячы турыстаў. Ёсць надзея, што горад стане гісторыка-археалагічным запаведнікам, і гэта паспрыяе яго далейшаму росквіту.

НА ЗДЫМКАХ: руіны замка і адна з вуліц Навагрудка.

Фота Рамана КАБЯКА.

## ЗАЛАТЫЯ ЗВАНОЧКІ І КВЕТКІ ТАНІ АПАЦКАЙ

З Таняй Апацкай я пазнаёмілася, калі яна, калоцячыся ад холаду, стаяла побач з Мастацкім салонам і трымала ў руках надзвычай прыгожых свінак, званочкі і кв... зробленыя са звычайнай саломкі. За вельмі памяркоўную, як прынята гаварыць зараз, смешную цану я набыла ў яе дзіўную свінку, якая стала сімвалам года, і дамовілася аб сустрэчы. І вось Таня з'явілася ў рэдакцыі, адкрыла прынесеныя пакункі, і ў невялікі пакойчык нібы прыйшло лета. Залацістая, сонечная саломка зіхацела і свяцілася, як жніўеньскае поле. Мне па... ся, Таня належыць да тых людзей, якія з большай ... тай працуюць, чым гавораць. І тым не менш, я даведалася пра вельмі цікавыя рэчы. Мы ўжо прывыклі, што народныя традыцыі звычайна перадаюцца ў спадчыну нашчадкам ад дзядуль і бабуль. Аднак дзяўчынка работу з саломкай засвоіла практычна самастойна. Некалі адна знаёмая майстрыха прадэманстравала ёй асновы пляцення, што вельмі зацікавіла Таню, і яна набыла кніжку-падручнік, па якому многаму навучылася сама. Была ў яе фантазія, імкненне рабіць прыгожае ўласнымі рукамі і маці-мастачка, якая дапамагае дзяўчынцы развіваць вобразнае мысленне, ствараць удалыя кампазіцыі. Сама свае работы не разглядае як працяг традыцый ці захапленне народнай творчасцю. Для яе гэта хутчэй спосаб самавыяўлення, магчымасць зрабіць нешта прыгожае ўласнымі рукамі з даступнага матэрыялу. А яшчэ -- зарабіць грошы на навучанне ў музычнай школе (адначасова Таня вучыцца ў 8 класе звычайнай школы). Між іншым, я лічу, што гэта вельмі годны і добры спосаб зарабіць на ўласную адукацыю, тым больш, што дзяўчына ўжо робіць не толькі просценькія вырабы, але і даволі складаныя рэчы. Таня цікавіцца ўсім, што звязана з саломкай. Ад яе я даведалася, напрыклад, што "павукі", якія я заўсёды лічыла цалкам беларускімі вырабамі, аказваецца, нарадзіліся ў Скандынавіі, дзе іх рабілі пастухі, што колер саломкі залежыць ад таго, дажджлівым ці засушлівым было лета, што саломка толькі падаецца крохкай і кволай, а на самай справе яна вельмі трывалая і не варта з ёю цырымоніцца: чым больш рашуча і цвёрда з ёю абыходзіцца, тым больш паслухмяна яна прымае прызначаную ёй майстрам форму.

Таня расказала, што яе вырабы купляюць не вельмі ахвотна, хаця цэны яна называе сціплыя. Прыглядаюць цудоўныя рэчы ў асноўным іншаземцаў, а не суайчыннікаў. Чаму нам зараз стала непатрэбным тое, што некалі было родным і неаддзельным ад нашай культуры і быту? Чаму грэюць душу беларуса дарагія і часта безгустоўныя замежныя падробкі і застаюцца незаўважанымі сціплыя, але такія прыгожыя, сапраўдныя свае рэчы? Я не ведаю адказу на гэтыя пытанні, не ведаю, што сказаць маленькай мастачцы Тані Апацкай, якая пачынае думаць, што яе творы нікому не патрэбны.



Залатая саламяная птушка, зробленая Таняй, зараз жыве ў маёй кватэры. Знаёмыя, што заходзяць да мяне, захапляюцца і прыгажосцю і вельмі здзіўляюцца, даведаўшыся, што яе зрабіла чатырнаццацігадовая дзяўчынка. А я ўспамінаю Таніны словы аб крохкай саломцы, якая на самай справе вельмі трывалы матэрыял. Спадзяюся, дачакаемся, калі зноў успомняць пра яе прыгажосць і заззяе яна золатам не толькі для замежных турыстаў.

Вераніка ЧАРКАСАВА.



## СПОРТ

### СТАНЕ ТРАДЫЦЫЙНЫМ

У мінскім Палацы спорту завяршыўся міжнародны турнір, прысвечаны памяці вядомага фехтавальшчыка і трэнера Г. Бокуна. Цікавасць да спаборніцтваў была вялікай. Каля ста вядомых фехтавальшчыкаў з розных краін свету прыехалі ў Мінск.

У гэтай знакамітай кампаніі добра выступілі гаспадары. Так, беларус Віталь Захараў у рашаючых паядынках выйграў у расіяніна Аляксандра Глазунова.

І ў камандных спаборніцтвах першае месца дасталася нашым землякам. Прызёрамі тут сталі каманды Украіны і Румыніі.

Прынята рашэнне зрабіць гэты турнір традыцыйным і аднесці яго да вышэйшай катэгорыі.

### "ЗАЛАТЫЯ АТЛЕТЫ"

Як ужо паведамлялася, лепшымі спартсменамі Беларусі мінулага года сталі біятланістка Святлана Парамыгіна і гімнаст Іван Іванкоў. У рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя ўручэнню лаўрэатам статуэтак "Залаты атлет".

Разам са Святланай Парамыгінай і Іванам Іванковым адзначаны трэнеры Уладзімір Ваткін, Віктар Дойлідаў, спартыўны журналіст Уладзімір Навіцкі, спартсмен-інвалід Уладзімір Румянцаў і іншыя.

На ўрачыстасцях гучалі не толькі віншаванні, але і песні вядомых выканаўцаў. Так Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч падарылі Івану Іванкову прысвечаную яму песню "Ваня". Свята стала прыемным сюрпрызам для спартсменаў, якія таксама цяпер перажываюць нялёгкія часы.

### ПАРАДОКС, ДЫ І ТОЛЬКІ

Усяго два этапы засталіся да заканчэння спаборніцтваў на Кубак свету па фрыстайлу. У апошніх стартах удала выступіў мінчанін Васіль Вараб'ёў, які заняў чацвёртае месца, а ў агульным заліку па суме ўсіх этапаў -- дзесятае.

На жаль, вышэй яму паднявца не ўдасца, бо ён прапусціў ужо тры старты з-за... несвоечасовага афармлення віз.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 395. Падпісана да друку 6. 3.1995 г.